Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 32 (4935) 11 жніўня 2017 г.



# У АДБІТКАХ ЧАСУ

## Падарунак да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання

**У Вілейцы па вуліцы Вадап'янава, 35 некалі месцілася рэдакцыя раённай газеты, яшчэ раней у гэтым памяшканні працавала звычайная друкарня. Зараз будынак становіцца гісторыка-краязнаўчым аб'ектам, дзе з часам будуць ладзіцца адмысловыя экскурсіі. Ужо сёння тут паказваюць, як выраблялася папера з льну, як друкаваліся аркушы першых беларускіх кніг. Паспрабаваць сябе ў ролі першадрукароў змаглі наведвальнікі прыватнага музея кнігадрукавання ў дзень свята — 6 жніўня.**


Фота Уладзіміра Багданава.

У ролі першадрукара.

Сталыя ўдзельнікі розных асветніцкіх імпрэз, у прыватнасці Дня беларускага пісьменства, традыцыйных лютаўскіх кніжных выставак у Мінску, ведаюць Уладзіміра Ліхадзедава як чалавека, які ўзнаўляе старадаўнія традыцыі беларускага кнігадрукавання. А 6 жніўня 2017 года (застаецца толькі запомніць гэтую дату!) лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне», вядомы калекцыянер і мецэнат прэзентаваў у Вілейцы, на Міншчыне, першую чаргу прыватнага музея гісторыі кнігадрукавання. Падзея супала са святам 500-годдзя беларускага кнігадрукавання.

Вітаць калекцыянера і сучаснага асветніка, гісторыка з пачаткам такой высакароднай справы прыйшлі цікаўныя да кнігадрукавання людзі, кіраўніцтва Вілейскага райвыканкама, госці з Мінска, журналісты, музейныя работнікі. Уладзімір Ліхадзедаў расказаў шмат цікавага з гісторыі беларускага кнігадрукавання. Сваімі развагамі пра маштабы збіральніцкай дзейнасці філакартыста, гісторыка кніжнай справы ў Беларусі падзяліліся Генадзь Аляксеенка, Ігар Зялёны, Віктар Кот, Уладзімір Багданаў, Барыс Цітовіч.


Экспанаты музея.



— Мне імпануе тое, што менавіта з Вілейшчынай звязана руплівая грамадская дзейнасць Уладзіміра Ліхадзедава, — сказаў старшыня Вілейскага райвыканкама Віктар Кот. — Яшчэ, здаецца, і год не прайшоў з таго часу, як Уладзімір Аляксеевіч набыў гэтае памяшканне, а ўжо колькі зроблена. Ужо можна пачынаць экскурсіі. Спадзяюся, што ў музей пойдуць школьнікі, моладзь. Станкі, якія тут знаходзяцца, розныя прылады друкарскай справы стануць добрай ілюстрацыяй да інфармацыі, ведаў, якія дзеці бяруць з падручнікаў, кніг.

Нагадаем, што пастаянную інфармацыйную, арганізацыйную падтрымку дзейнасці беларускага калекцыянера на працягу многіх гадоў аказвае газета «СБ. Беларусь сегодня». А ў Выдавецкім доме «Звязда» (раней — у рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і Мастацтва») не аднойчы выходзілі кнігі з серыі «У пошуках страчанага» (згадаем іх назвы — «У пошуках страчанага», «Знічкі Айчыны», «Падарожжа ў часе»), у якіх Уладзімір Ліхадзедаў змясціў рэпрадукцыі з выявамі старых паштовак з уласнай калекцыі. А на старонках часопіса «Маладосць» яшчэ некалькі гадоў назад выходзілі публікацыі гісторыка-краязнаўчых нарысаў, эсэ з рэпрадукцыямі паштовак. Чытачы мелі магчымасць ажыццяўляць адмысловае віртуальнае падарожжа па розных мясцінах.

Мікола БЕРЛЕЖ

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў з юбілеем народную артыстку СССР, Украінскай ССР і Малдаўскай ССР, Героя Украіны Софію Ратару. «Ваш унікальны талент, непаўторная манера выканання, абаянне і прыгажосць заслугоўваюць шчырага захаплення. Дзякуючы яркай індывідуальнасці і аддансці любімай справе, вы заваявалі сэрцы мільёнаў паклоннікаў, сталі адной з самых вядомых спявачак сучаснасці», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ У дзень памяці Песняра, 14 жніўня, у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа на выстаўцы «Спяшайцеся з паэтам стрэцца…» будзе экспанавацца раней невядомы графічны партрэт класіка беларускай літаратуры. Гэты партрэт народнага паэта быў змешчаны на вокладцы перыядычнага выдання «Беларускі ілюстраваны каляндар» за 1944 год, якое выйшла з друку ў Буэнас-Айрэсе. Увазе наведвальнікаў будуць прадстаўлены партрэты Якуба Коласа, створаныя знакамітымі беларускімі мастакамі Валянцінам Волкавым, Георгіем Паплаўскім, Уладзімірам Сулкоўскім, Святаславам Федарэнкам.

✔ Беларусь упершыню ўзяла ўдзел у IV Міжнародным фестывалі дружбы, які адбыўся ў Нью-Ёрку. Музычная група Bycity была адабрана арт-дырэкцыяй горада, каб прадставіць на фестывалі Еўропу. Са сцэны прагучалі кампазіцыі на беларускай мове — «Цячэ вада ў ярок», «Зазвінелі звонікі», «На пасашок». Пры ўдзеле Генеральнага консульства Беларусі ў Нью-Ёрку прадстаўнікі беларускай дыяспары ўдзельнічалі ў добраўпарадкаванні міжнароднай вёскі, дзе можна было паспрабаваць салодкія пачастункі з Беларусі. А ў «Беларускай хаце» былі прадстаўлены нацыянальныя касцюмы і беларускія сувеніры.

✔ Першая персанальная выстаўка палотнаў беларускага мастака Аляксея Кузьміча «Храм Мадонны» ў Латвіі будзе ладзіцца з 11 жніўня па 10 верасня ў Арт-цэнтры імя Марка Роткі (Даўгаўпілс). У гэтым месцы экспанаваліся палотны Марка Шагала, Эдварда Мунка, Мікалая і Святаслава Рэрыхаў і, вядома, Марка Роткі. Выставачны праект Аляксея Кузьміча прадстаўляе тэму Мадонны і мацярынства ў беларускім выяўленчым мастацтве на мяжы канца XX — пачатку XXI стагоддзя. Экспазіцыя раней дэманстравалася ў Берліне, Парыжы, Таліне, Рызе і іншых еўрапейскіх гарадах.

✔ У сераду стартаваў рэспубліканскі конкурс маладзёжнай песні «Беларусь — крыніца натхнення». Заяўкі прымаюцца да 15 лістапада. Па выніках праслухоўвання журы конкурсу вызначыць пераможцу і двух прызёраў. Лепшыя дзесяць музычна-паэтычных твораў будуць выконвацца на ўрачыстых цырымоніях, маладзёжных і іншых мерапрыемствах.

✔ Падчас уборачнай кампаніі беларускія артысты выступяць з канцэртамі перад хлебаробамі. З 1 жніўня па 30 лістапада ў рэгіёнах праходзіць рэспубліканскі фестываль «Майстры мастацтваў — працаўнікам вёскі», мэта якога — адраджэнне, развіццё, папулярызацыя лепшых традыцый і дасягненняў нацыянальнай, сусветнай культуры і мастацтва, далучэнне да іх сельскага насельніцтва. Урачыстае адкрыццё фэсту адбудзецца 26 жніўня ў Аршанскім раёне.

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# СКАРЫНАВЫХ СЛОЎ АДГУКНУЛАСЯ РЭХА

Дыпломы і арыгінальныя металічныя статуэткі з выявай Ф. Скарыны на каменнай аснове напярэдадні знакавага юбілею, 3 жніўня, атрымалі пераможцы абвешчанага на пачатку бягучага года Саюзам пісьменнікаў Беларусі літаратурнага конкурсу «Скарынавай душой узлашчанае слова».

У віншаванні ўзялі ўдзел вядомыя пісьменнікі, журналісты, першыя асобы Саюза пісьменнікаў Беларусі і, натуральна, самі пераможцы (школьнікі і дарослыя, юрысты і філолагі, настаўнікі і студэнты, жыхары сталіцы, райцэнтраў, вёсак Беларусі з самых аддаленых яе глыбінак, а таксама з далёкага замежжа. Узнагароды ўручалі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец і яго намеснік, ініцыятар і кіраўнік конкурсу Анатоль Крэйдзіч.



Лаўрэаты конкурсу.

Усяго пераможцаў шасцёра: трыццацігадовы Антось Уласенка з Маладзечна, Таццяна Лашук з Гродна, 51-гадовы Глеб Ганчароў з Мінска, пятнаццацігадовы Кірыл Анацка з в. Карані Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці, Святлана Кабанава з Дзюсельдорфа, што ў Германіі, шаснаццацігадовая Яна Тарасевіч з в.Сямігосцічы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці.

Сярод дасланых работ аказалася многа такіх, якія ніяк нельга было пакінуць не адзначанымі, таму вырашылі яшчэ шасцярых удзельнікаў творчага спаборніцтва ўзнагародзіць заахвочвальнымі граматамі. У іх ліку Дар'я Парамонава (13 гадоў), Дар'я Баршчэўская (14 гадоў) і Настасся Сілюцкая (15 гадоў) з Мінска, члены гуртка «Журналістыка» Дома дзяцей і моладзі «Золак»; Кірыл Дзмітрук (14 гадоў) з Віцебска, Мая Галіцкая з Буда-Кашалёва Гомельскай вобласці; Святлана Міхалькевіч (18 гадоў) з вёскі Канвелішкі Варанаўскага раёна Гродзенскай вобласці.

Усе тэксты пераможцаў напісаны па-беларуску (пра самыя цікавыя з іх «ЛіМ» паведамляў). Як заўважыў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, конкурс ладзіўся з мэтай паказаць адметнасці пісьменніцкай работы, каб праз зварот да ўласнай літаратурнай творчасці яго ўдзельнікі зацікавіліся кнігай і чытаннем у цэлым, а таксама прыцягнуць увагу да беларускага першадрукара як да велічнай постаці сусветнага маштабу.

**Антаніна КІТ**

# 100-ГАДОВАЕ ЛЮСТЭРКА

## «Звязда» як летапісец нацыянальнай культуры




Фота Кастуся Дробава.

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў рэдакцыі газеты «Звязда» са 100-гадовым юбілеем выхаду ў свет першага нумара гэтага выдання. «Заснаваная ў няпросты час узрушэнняў і перамен у жніўні 1917 года, «Звязда» стала сапраўдным летапісам жыцця беларускага грамадства, — адзначыў кіраўнік дзяржавы. — Яе гісторыя непарыўна звязана з гісторыяй Беларусі і нашага народа. Праз газету родная мова даходзіць да кожнага сэрца». У віншаванні гаворыцца, што «Звязда» не праставала выходзіць нават у час Вялікай Айчыннай вайны. Газету выпускалі ў мінскім падполлі, пасля — на партызанскім востраве Зыслаў. «Друкаванае слова заклікала людзей да барацьбы з захопнікамі, надавала ўпэўненасці і сілы. Нездарма пасля вайны «Звяздзе» прысвяцілі чатыры помнікі — унікальны выпадак, які яскрава сведчыць пра значнасць газеты для беларусаў», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.**

Газета «Звязда», гісторыя якой пачалася ў 1917 годзе, святкуе стагоддзе. Газета перажыла некалькі этапаў існавання. Звычайна іх падзяляюць у залежнасці ад падзей, значных для рэспублікі і яе жыхароў, — трагічных, узрушальных, шчаслівых. Пры гэтым найбольш значным этапам лічыцца пасляваенны, калі тыраж газеты, што выдавалася на беларускай мове, перасягнуў 100 000 экзэмпляраў (у 70-я гады мінулага стагоддзя), а таксама постперабудовачны, калі выданне дасягала максімальнага ўплыву на аўдыторыю (больш за 200 000 экзэмпляраў) і фактычна стала голасам незалежнай краіны праз адзін з яе сімвалаў — беларускую мову. Сімвалічна і тое, што газета, якая пачыналася як рускамоўная, да беларускай мовы прыйшла свядома (пераход здарыўся ў 1927 годзе). Выданне праз сваю дзейнасць уплывала на фарміраванне нацыянальнай культуры.

У 1925 годзе ў «Звяздзе» становяцца рэгулярнымі тэматычныя старонкі па культуры. Напрыклад, «Літературная страница» з'яўляецца з тлумачэннем: «...редакция «Звезды» лічыць патрэбным удзяліць вялікую ўвагу асьветленню задач літаратуры і літаратурнай крытыцы... Асаблівую ўвагу мы ўдзелім беларускай літаратуры». [2, с. 3] І ў пацвярджэнне асаблівага клопату далей з'яўляецца «Літаратурная старонка». Яшчэ ў 20-я гады тэматычныя старонкі па культуры ў «Звяздзе» сталі рэгулярнымі, для іх шукалі назву, паступова прыйшлі да варыянта «Літаратура — крытыка — мастацтва». Старонка выходзіла 4 разы на месяц па-беларуску і прапаноўвала глебу для сур'ёзных інтэлектуальных разваг: у асноўным змяшчаліся аналітычныя артыкулы і рэцэнзіі, а на апошняй старонцы яшчэ выходзілі культурныя абвесткі. Такім чынам, «Звязда» ўжо на пачатку свайго існавання спрыяла фарміраванню літаратурна-мастацкай крытыкі ў краіне і нават заклала асновы для стварэння асобнага выдання, якое выйшла ў 1932 годзе пад назвай «Літаратура і мастацтва».

Газета — люстэрка рэчаіснасці. Перыядычнае выданне ствааралася, каб фарміраваць рэчаіснасць, былі ўпэўнены журналісты і пісьменнікі, лёс якіх быў звязаны са «Звяздой» у розныя часы, і тыя асобы, якія паклалі свае жыцці, друкуючы газету ў антыфашысцкім падполлі. Гэта быў доказ вялікай жыццёвай сілы і энергіі, заключанай у беларускай культуры. Жыццёвай сілы, якой хапае ўжо больш чым на 100 гадоў.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

*__12 жніўня__ — на творчую сустрэчу з Аксанай Ярашонак у межах акцыі «Лета з добрай кнігай» у лагер «Лясная казка» Вілейскага раёна. Пачатак а 11-й гадзіне.*

*__14 жніўня__ — на творчую сустрэчу з Аляксеем Шаўцовым у межах акцыі «Лета з добрай кнігай» у лагер «Здаровячок» ДУА «Рэчанская сярэдняя школа Любанскага раёна». Пачатак а 10-й гадзіне.*

*__16 жніўня__ — на творчую сустрэчу з Лёляй Багдановіч у межах акцыі «Лета з добрай кнігай» у аздараўленчы лагер «Яноўшчына» Крупскага раёна. Пачатак а 11-й гадзіне.*

*__17 жніўня__ — на занятк секцыі «Паэзія» вочна-завочнай школы «Са-Творчасць» пры Мінскім абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі (Мінск, плошча Свабоды, 13). Пачатак а 11-й гадзіне.*

*__18 жніўня__ — у Дом літаратараў (Фрунзэ, 5) на святочны канцэрт у межах міжрэгіянальнага форуму маладых пісьменнікаў Мінскай і Гомельскай абласцей. Пачатак а 15-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

*__19 жніўня__ — на свята «Яблычны Спас» з удзелам Кацярыны Сосна і літаратурна-музычнага аб'яднання «Світанак» у вёску Алашкі Шаркаўшчынскага раёна. Пачатак а 12-й гадзіне.*

### Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

*__17 жніўня__ — на прэзентацыю калектыўнага зборніка «Мой горад», прысвечанага 750-годдзю горада Магілёва (бібліятэка Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта харчавання). Пачатак а 16-й гадзіне.*

*__18 жніўня__ — на літаратурную вечарыну «Душы чароўнае святло» па творчасці паэтэсы члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніны Кавалёвай (в. Цёмны лес Дрыбінскага раёна, Цемналескаая бібліятэка-філіял). Пачатак а 11-й гадзіне.*

## Адам МАЛЬДЗІС:

# Чалавек-Інстытут

Неяк вядомая пісьменніца і журналістка Людміла Рублеўская параўнала асобу вучонага культуролага Адама Іосіфавіча Мальдзіса з каменем… Чытаем у яе артыкуле «Чалавек Адраджэння»: «У Беларускай Энцыклапедыі ёсць артыкул "Адам Мальдзіс". Той, хто жадае, зможа прачытаць, дзе і калі ён нарадзіўся і працаваў, і спіс яго навуковых даследаванняў.

Але слова "Мальдзіс" у сённяшняй беларускай культурнай прасторы стала гэтакім жа архетыпам, як слова "камень". Яго можна не тлумачыць. Яго ведаюць усе, і кожны ўяўляе па-свойму. Знакавая постаць… Чалавек, чыё меркаванне важнае для ўсіх — правых і левых, усходнікаў і заходнікаў, рамантыкаў і прагматыкаў… Ён старшыня камісіі "Вяртанне", якая клапоціцца пра звязеныя, скрадзеныя нашы культурныя каштоўнасці. Ён лідар міжнароднай супольнасці беларусаў. Ён дзед Адам з калонкі дзяржаўнай газеты "Советская Белоруссия". Усё, што ён робіць, успрымаецца як належнае і вартае павагі…»


Фота Кастуся Дробава.

Адам Мальдзіс.

Неаднойчы параўноўваў работу Адама Іосіфавіча, ініцыятыўную, часцей за ўсё самім жа ім і падказаную, альбо работу, складзеную з суб'ектыўных запатрабаванняў калег, арганізацый, рознага кшталту ўстаноў, з работай Інстытута… І справа нават не ў колькасным вымярэнні зробленага і здзейсненага, напісанага і прамоўленага Адамам Іосіфавічам Мальдзісам. Справа — у яго выключнай здольнасці ўласныя глыбокія веды сумясціць з уласнай грамадзянскай пазіцыяй, настойлівым, рашучым імкненнем давесці гэтую пазіцыю да ўсяго грамадства. Справа — у яго паслядоўным эвалюцыйным развіцці, уменні навакольную рэчаіснасць не толькі асэнсаваць праз гісторыю, але і гісторыю з розных стагоддзяў далучыць да нашай сённяшняй сучаснасці.

Мо таму ён усім і патрэбны? Мо таму без прафесара Адама Мальдзіса не можа абысціся ніводная вартая ўвагі беларуская ініцыятыва ў культуры, асветніцтве, літаратуры?..

«Творчае пабрацімства: Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст.» (1966), «Падарожжа ў XIX ст.: З гісторыі беларускай літаратуры, мастацтва і культуры» (1969), «Традыцыі польскага Асветніцтва ў беларускай літаратуры XIX ст.» (1972), «Таямніцы старажытных сховішчаў» (1974), «На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду: другая палавіна XVII — XVIII ст.» (1980), «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя: Нарысы быту і звычаяў» (1982), «Восень пасярод вясны: Аповесць, сатканая з гістарычных матэрыялаў і мясцовых паданняў» (1984), «З літаратуразнаўчых вандраванняў: Нарысы, эсэ, дзённікі» (1987), «Францыск Скарына як прыхільнік збліжэння і ўзаемаразумення людзей і народаў» (1988), «Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча: Партрэт пісьменніка і чалавека» (1990), «І ажываюць спадчыны старонкі» (1994), «Як жылі продкі ў XVIII стагоддзі» (2001), «Выбранае» (2007), «Белорусские сокровища за рубежом» (2009), «Соотечественники» (2013)… І процьма публікацый, раскіданых па зборніках, энцыклапедыях, перыядычным друку…

Наўмысна пералічыўшы ўсе ці амаль ўсе кнігі Адама Іосіфавіча, хачу нагадаць, што ён з'яўляецца аўтарам адмысловай бібліятэкі, мець якую ў хатнім кнігазборы — вялікая патрэба, вялікая неабходнасць для ўсіх нас. Гэта як мець пад рукою кнігі Уладзіміра Караткевіча, Міколы Ермаловіча, Кастуся Тарасава, Леаніда Дайнекі, Віталя Скалабана, Генадзя Кісялёва, Генадзя Каханоўскага, а зараз ужо і Вітаўта Чаропкі, Людмілы Рублеўскай, яшчэ некаторых аўтараў, пісьменнікаў і публіцыстаў, напісанае якімі фарміруе светапогляд… Мне здаецца, што ў многім менавіта мы, журналісты, вінаватыя, што, нягледзячы на актыўнае, пастаяннае на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў прыцягненне Адама Іосіфавіча да інтэрв'юіравання, да выступлення ў газетах і часопісах як сталага пазаштатнага аўтара (чаго толькі вартае яго шматгадовае супрацоўніцтва з «СБ. Беларусь сегодня», «Голасам Радзімы»!), нават да рэдагавання чужых аўтарскіх матэрыялаў, не здолелі, кажучы сучасным слэнгам, даць сапраўдную «раскрутку» яго вышукам архіўнага, гісторыка-краязнаўчага характару. Адбываецца нешта падобнае на засваенне спадчыны Аляксандра Карлавіча Ельскага, пісьменніка і публіцыста XIX — пачатку XX стагоддзя… Пра яго ведалі і ведаюць усе, артыкуламі з польскіх энцыклапедый карысталіся і карыстаюцца ўсе, а вось на працягу, лічы, стагоддзя, мала што і расказалі пра Ельскага. На крайні выпадак нават асобнай кнігі сёння пра Аляксандра Ельскага — славутага краязнаўчага пісьменніка, публіцыста, збіральніка памятак беларускай зямлі — няма… Дзякуй Богу і арганізатару выдавецкай справы Кастусю Цвірку (а яшчэ — Наталлі Мазоўка), што том Ельскага ўбачыў свет у серыі «Беларускі кнігазбор»… А трэба ўжо даўно мець Поўны збор твораў Аляксандра Ельскага — прыблізна ў 15 (!) тамах. Гэтую лічбу ў дачыненні да спадчыны А. Ельскага, свайго славутага папярэдніка на ніве гістарычнага краязнаўства, дарэчы, агучыў не хто іншы, як Адам Іосіфавіч Мальдзіс. Дык, можа быць, варта паспяшацца і выдаць Збор твораў Адама Мальдзіса, папярэдне абвясціўшы на яго грамадскую падпіску. Вопыт збору сродкаў на папулярныя выданні ў нашай грамадскасці ўжо ёсць. І давалі паспяховы вопыт… А калі спалучыць у гэтай справе дзяржаўную і грамадскую ініцыятыву?..

Сам жа Адам Іосіфавіч Мальдзіс — чалавек многіх вартых увагі ініцыятыў. Літаральна кожная яго газетная, часопісная публікацыя мае ў змесце свае прапановы, падказкі, парады. Ён заўсёды шукае адрасы, да каго б звярнуцца ў справе надання вуліцы ў пэўным горадзе імя нашага даўно забытага суайчынніка, хто паспрыяе ва ўсталяванні мемарыяльнай дошкі альбо помніка, хто апякуецца мастацкай спадчынай, якую трэба было б прывезці з іншай краіны, хто зверне ўвагу на той ці іншы прыватны архіў... Яму, вучонаму, доктару філалагічных навук, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, кавалеру медаля імя Францыска Скарыны і кавалеру ордэна Францыска Скарыны, краязнаўчаму публіцысту, гістарычнаму пісьменніку, не цікава проста выступаць у друку, проста канстатаваць ужо вядомае, не цікава проста дзяліцца нечым уласна адкрытым, вынайдзеным… Яму, відавочна, цікава вылучаць ініцыятывы, варушыць грамадства, усіх нас...

Ёсць у Мальдзіса яшчэ адзін клопат. Ён мае самы што ні ёсць творчы і сацыяльна значны характар. Ён абышоў і абыходзіць многія і многія кабінеты, дзе, на яго прыватную думку, павінны прымацца рашэнні па мемарыялізацыі, ушанаванні гістарычных постацей, гістарычных, асветніцкіх падзей мінуўшчыны… У гэтым клопаце ён, канечне ж, шмат для каго надакучлівы, шмат калі, напэўна, грукаецца не ў пару, не ў спрыяльны для прыёму грамадзян час. Але без гэтага клопату, без такога кшталту генерацыі ініцыятыў, абуджэння грамадскай думкі не абысціся… Адам Мальдзіс — парушальнік спакою, чым і цікавы, чым і патрэбны ва ўсе часы. Патрэбны для краіны і грамадства, патрэбны настолькі, наколькі нам усім патрэбна зазіраць у мінулыя стагоддзі, каб ісці і паспяхова развівацца далей.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

## Дайджэст

• Выява Францыска Скарыны з'явілася на сцяне Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны. Графіці з партрэтам першадрукара, герб асветніка «Сонейка маладзіковае» і надпіс «Святло ведаў перамагае цемру невуцтва» стварыў мясцовы мастак Дзмітрый Казлюк. У планах мастака — упрыгожыць родны горад партрэтамі Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Танка. На малюнак Францыска Скарыны пайшло 60 кг спецыяльнай фасаднай фарбы, якой не пашкодзіць надвор'е. Праца была завершана 4 жніўня, за два дні да юбілею беларускага кнігадрукавання.

• У гродзенскім мікрараёне Дзевятоўка пачаўся знос апошніх дамоў, якія можна ўбачыць у вядомай савецкай кінастужцы «Белыя Росы». Дамы, што ўвасобілі вёску Белыя Росы, пачалі зносіць дзеля будаўніцтва новай вуліцы яшчэ ў 2013 годзе. Зараз на месцы вясковых хат плануюць пабудаваць шматпавярховы дом. Жыхарам знесеных прыватных дамоў даюць кватэры ў шматпавярховіках. Пра кінематаграфічнае мінулае вуліцы будзе нагадваць памятная таблічка побач са старым калодзежам, які трапляў у кадр фільма «Белыя Росы».

• Нацыянальны гістарычны музей Беларусі разам з Дзяржаўным музеем гісторыі Санкт-Пецярбурга арганізуе выстаўку, прысвечаную 100-годдзю Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый. На выстаўцы прадэманструюць плакаты, паштоўкі і вырабы з парцаляну, якія адлюстроўваюць першы час панавання савецкай улады. У Каменданцкі дом Петрапаўлаўскай крэпасці, дзе змесціцца экспазіцыя, паедзе калекцыя савецкіх плакатаў 1917 — 1920-х гадоў з Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі.

• Часопіс Forbes абвясціў рэйтынг самых высокааплатных пісьменнікаў 2017 года. Першае месца займае брытанская пісьменніца Джаан Роўлінг, якая сёлета папоўніла сваю маёмасць заробкамі за кошт п'есы «Гары Потэр і праклятае дзіця» і фільма «Фантастычныя стварэнні і дзе яны жывуць». *Forbes* сцвярджае, што спадарыня Роўлінг была б яшчэ багацейшай, калі б не аддавала частку сваіх заробкаў на дабрачыннасць: аўтар кніжнай серыі пра Гары Потэра ахвяравала 150 мільёнаў долараў. На другім і трэцім месцы ў спісе *Forbes* пісьменнікі Джэймс Патэрсан і Джэф Кіні, на чацвёртым і пятым — Дэн Браўн і Стывен Кінг.

• Ініцыятыўная брэсцкая сям'я стварыла 3D-канструктар «Мірскі замак». Раней аматары беларускай архітэктуры збіралі грошы на краўдфандынгавай платформе «Талака», але спонсары для ініцыятывы не знайшліся. Тады аўтары праекта выдалі канструктар накладам у 1500 асобнікаў на ўласныя грошы. Кардонная мадэль замка збіраецца без дапамогі нажніц і клею, дастаткова прачытаць інструкцыю і прытрымлівацца парад. Акрамя макета замка, у набор уваходзяць фігуркі гістарычных асоб і жаўнераў. Канструктар можна набыць у кніжных крамах і замовіць на старонках у сацыяльных сетках.

• У гістарычным цэнтры Мінска пакажуць англійскае кіно, паведамляе БелТА. Кінасеансы ладзяцца ў межах праекта «*Open Air Cinema*». 11 — 12 жніўня ў двары атэля «Манастырскі» будуць паказваць брытанскія фільмы, прадстаўленыя праектам «Лістапад. Калекцыя». 11 жніўня запрашаюць на карціну «Трэцяя зорка» з Бенядзіктам Камбербэтчам і Х'ю Бонневілям у галоўных ролях. 12 жніўня прадэманструюць крымінальную камедыю «Доля анёлаў».

## ЛіМ каляндар

**8 жніўня** — 105 гадоў з дня нараджэння Змітра Віталіна (сапр. Зміцер Сергіевіч; 1912 — 2004), беларускага паэта, празаіка. З 1961 г. жыў у Адэсе.

**8 жніўня** — 105 гадоў з дня нараджэння Аркадзя Чарнышэвіча (1912 — 1967), беларускага празаіка.

**9 жніўня** 70-гадовы юбілей адзначыла Ніна Паўлава, беларуская артыстка балета, народная артыстка БССР.

**9 жніўня** — 90 гадоў з дня нараджэння Мацвея Федароўскага (1927 — 1992), беларускага акцёра, педагога, заслужанага артыста БССР.

**10 жніўня** — 105 гадоў з дня нараджэння Веры Лютавай (1912 — 1954), беларускай паэтэсы, празаіка. Пісала на рускай мове.

**11 жніўня** — 110 гадоў з дня нараджэння Аляксея Бараноўскага (1907 — 1970), беларускага акцёра, заслужанага артыста БССР.

**13 жніўня** 75-годдзе адзначыць Вячаслаў Нікіфараў, беларускі кінарэжысёр, кінаакцёр, педагог, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.

## Палачане



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# Генадзь

Найбліжэйшы ад дома выбарчы ўчастак быў у будынку льнянога тэхнікума. Адным з галоўных атрыбутаў гэтага мерапрыемства ў савецкі час быў канцэрт мастацкай самадзейнасці. Паколькі розныя ідовішчамі мы ў нашым горадзе не былі спешчаны, чаму нам з хлопцамі-аднакласнікамі было не завітаць на бясплатнае прадстаўленне? Памятаю, выйшаў на сцэну святочна апрануты малады чалавек і гучным голасам аб'явіў: «Генадзь Бураўкін. Верш пра Полаччыну». Загучалі радкі:

*Не шукайце красы за марамі,*
*На ўзбярэжжах з крыштальнымі зорамі,*
*Прыязджайце да нас, на Полаччыну,*
*Пахадзіце яе прасторамі…*

Я быў уражаны: да гэтага нічога пра наш горад не чытаў і не чуў. Так у маё жыццё ўвайшло імя Генадзя Бураўкіна. Ці мог я, дзевяцікласнік, уявіць, што Бураўкін стане маім першым літаратурным настаўнікам, непасрэдным начальнікам на працы на радыё, калегам у калектыве часопіса «Вожык» і сябрам маёй сям'і?

Непасрэдна пазнаёміўся я з Генадзем Мікалаевічам, калі працаваў карэктарам у полацкай газеце «Сцяг камунізму». Тады вядомы паэт Бураўкін, уласны карэспандэнт усесаюзнай газеты «Правда», прыязджаючы ў горад па справах ці адведаць бацькоў, завітваў у газету, дзе быў некалі надрукаваны яго першы верш і дзе ў мой час працаваў яго аднакурснік Герман Кірылаў, які і прадставіў мяне сталічнаму госцю. Быў, здаецца, 1968 год. Мару напісаць пра тое, што значыла для мяне гэтае знаёмства, пра тыя амаль пяцьдзясят гадоў, што звязвалі нас блізкімі стасункамі, пра размовы і сустрэчы, пра часам няпростыя моманты, якія здараліся паміж намі, але заўсёды заканчваліся яшчэ большай цеплынёй і разуменнем.

Сёння — пра Бураўкіна-палачаніна. Ён сам сябе такім заўсёды лічыў, і пры кожнай размове з яго вуснаў гучала: «Як кажуць у нас, у Полацку…» І хоць нарадзіўся ён на памежнай да Полацка Расоншчыне, менавіта Полацк стаў яго духоўнай радзімай, горадам яго душы і любові.

У полацкай першай школе ён атрымаў атэстат сталасці, у Полацк заўсёды імкнуўся і ў час студэнцтва ў БДУ, і да апошніх дзён жыцця. У полацкай прыгараднай вёсцы жылі ўвесь час яго мама і бацька, сястра і пляменнікі. Памятаю, калі памёр яго бацька Мікалай Сцяпанавіч, Бураўкін быў у Нью-Ёрку, дзе працаваў прадстаўніком Беларусі ў ААН, і мне разам з яго сынам Аляксеем давялося займацца ўсімі клопатамі па пахаванні. Калі Генадзь Мікалаевіч прыляцеў дадому, ён змог пастаяць толькі перад магільным грудком на ціхіх полацкіх могілках каля вёскі Ропна. Памятаю той марозны дзень, тужлівы Генадзеў твар і слёзы, якіх ён не саромеўся.

Пра яго стасункі з маці можна складаць паэмы. Я не раз бываў у гасцінным дамку Бураўкіных у пасёлку льнозавода і заўсёды цешыўся той шчырай душэўнай атмасферай, якой была напоўнена тая простая хатка. У ёй, і Бураўкін гэтым ганарыўся, пабывалі такія яго сябры, як Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Алесь Жук, Мікола Аўрамчык, Валянцін Болтач, кампазітары Валерый Іваноў, Эдуард Ханок, на той час сакратар Віцебскага абкама партыі Іосіф Навумчык... Яго прыезд дадому быў заўсёды святам. Збіраліся родзічы, аднавяскоўцы. І мне там заўсёды было хораша і ўтульна.

На самым пачатку дзевяностых падчас выбараў у Вярхоўны Савет Беларусі старшыня Дзяржтэлерадыё, член ЦК КПБ Бураўкін меўся балатавацца ў дэпутаты па адной з Наваполацких акруг. Але палачане таксама вылучылі яго кандыдатуру, і насуперак узгодненасці з рэспубліканскім і абласным начальствам Генадзь Мікалаевіч выбраў родны Полацк. Яго кандыдатура набрала найбольш галасоў сярод шасці прэтэндэнтаў, але не хапіла літаральна некалькі галасоў да пяцідзесяці працэнтаў ад колькасці ўдзельнікаў галасавання, і былі прызначаны паўторныя выбары. А Бураўкіна паслалі на дыпламатычную работу ў ААН.

На жаль, не ўсе нават у Полацку ведаюць, што сённяшнія студэнты Полацкага ўніверсітэта спяваюць гімн, вершы для якога напісаў Генадзь Бураўкін. Тады яму заказаў гэта былы рэктар установы Эрнст Бабенка. Бураўкін да апошніх сваіх дзён сябраваў з полацкімі студэнтамі, не раз быў у іх у гасцях. Як, зрэшты, і ў бібліятэках і навучальных установах роднага горада. Прыгадваюцца радкі Рыгора Барадуліна, прысвечаныя сябру:

*Мы дамоў вяртаемся, Генадзь,*
*Дзе б сцяжыны нашы ні кружылі.*
*Лепей на зямлі бацькоў канаць,*
*Чым раскашавацца на чужыне.*

Свой апошні прытулак Генадзь Бураўкін знайшоў на мінскіх кладах, але ён застаўся палачанінам і вярнуўся ў родны горад светлай удзячнай памяццю.

## Унікальны праект

# 25 СКАРЫНАЎСКІХ ВЫДАННЯЎ —

## пад адной вокладкай



*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Германіі ў Беларусі Петэр Дэтмар, міністр інфармацыі Лілія Ананіч і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Чэхіі ў Беларусі Мілан Экерт.*

Летась і сёлета паліца скарынііяны папоўнілася дзясяткамі новых кніг — ад энцыклапедый для дзяцей да грунтоўных навуковых манаграфій. Спадчына першадрукара — а гэта 25 выданняў — пабачыла свет у факсімільным узнаўленні. Ды і сама постаць Скарыны з Полацка стала не такой чужой, бронзавай і статычнай. І хоць асноўныя прэм'еры адбыліся сёлета, у год 500-га юбілею беларускага кнігадрукавання, праца па іх падрыхтоўцы пачалася намнога раней. Вось і выданне «Сусветная спадчына Франциска Скарыны», што пабачыла свет на беларускай, рускай і англійскай мовах у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», ужо мае сваю ўласную гісторыю даўжынёй каля пяці гадоў. Дыхтоўны фаліянт, выхад якога падтрымала Міністэрства інфармацыі, прэзентавалі шырокай грамадскасці пад светлымі зводамі Нацыянальнага мастацкага музея.

— Наша краіна, якая дала свету шматлікія імёны слынных землякоў, і сёння мае вялікія набыткі. 2017 год для нас — гэта не толькі Год навукі. Як вядома, навука стаіць на падмурку асветы, кнігі, таму год праходзіць пад знакам паўтысячагоддзя беларускага кнігадрукавання. Гэта, безумоўна, сведчыць пра вялікі клопат дзяржавы пра кнігу, — падкрэсліла міністр інфармацыі Лілія Ананіч. — Скарына здзейсніў подзвіг, бо слова, дзякуючы яму, стала зразумела простым людзям, яно перасягнула межы краіны. Спадчына першадрукара — неўміручы подзвіг Беларусі, беларусаў і ўсяго чалавецтва ў цэлым. Мы і сёння імкнёмся да ўзаемапавагі, міралюбства, справядлівасці. Многія з каштоўнасцей, закладзеных 500 гадоў таму ў кнігах першадрукара, не страцілі актуальнасці і ў наш час. У гэты год беларуская кніга шмат вандравала і яшчэ павандруе. Мы пабывалі ў Вільнюсе, Празе, Парыжы, рыхтуемся да прадстаўлення нацыянальнага кнігавыдання ў Кітаі, Сербіі, Германіі. Вельмі знакава, што па традыцыі свае стасункі мы ўмацоўваем менавіта праз слова.

У падрыхтоўцы кнігі «Сусветная спадчына Франциска Скарыны» ўзялі ўдзел дзясяткі спецыялістаў з Расіі, Украіны, Германіі, Вялікабрытаніі, Даніі, ЗША, Літвы, Польшчы, Славеніі, Чэхіі — у кніжніцах гэтых краін сёння захоўваюцца арыгіналы скарынаўскіх выданняў. Сваёй маштабнасцю і пэўнай манументальнасцю выданне паказвае, што постаць нашага земляка знакавая для культуры ўсяго свету, а яго здабыткі цэняць і вывучаюць на розных кантынентах. Важна, што на старонках гэтага выдання знайшлі сваё месца ўсе 25 кніг Скарыны: чытач можа пабачыць вывы асобных старонак, пазнаёміцца з кожнай кнігай, ацаніць яе месца і значэнне ва ўсёй спадчыне Франциска з Полацка.

Дасягненні першадрукара зрабілі рэвалюцыю не толькі ў галіне распаўсюджвання інфармацыі, мастацкага перакладу. Як зазначыў рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіл Баразна, Скарына заклаў асновы кніжнай культуры ў цэлым — гэта і падрыхтоўка цэласнага макета, ілюстрацый, культура прадстаўлення тэксту ў выданні. А Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Чэхіі ў Беларусі Мілан Экерт і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Германіі ў нашай краіне Петэр Дэтмар былі аднадушныя ў меркаванні, што вельмі лёгка будаваць стасункі паміж краінамі, якія маюць агульных герояў. Скарына, клопат пра кнігу і рэвалюцыя свядомасці, перадачы інфармацыі сапраўды служаць масткамі паміж многімі народамі. І сёння, у час, калі валадарыць слова віртуальнае, варта памятаць пра важнасць слова друкаванага, не страціць культуру кнігі і гэтага фармату чытання.

Хоць выданне пабачыла свет параўнальна нядаўна, яно ўжо адзначана на прэстыжных прафесійных конкурсах. Так, «Сусветная спадчына Франциска Скарыны» атрымала гран-пры Міжнароднага конкурсу дзяржаў — удзельніц СНД «Мастацтва кнігі — 2017» і гран-пры Еўразійскай міжнароднай кніжнай выстаўкі *Eurasian Book Fair-2017*.

**Марына ВЕСЯЛУХА**



*Фота Сяргея Ніканoвіча.*

*Дырэктар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Уладзімір Андрыевіч падчас прэзентацыі.*

# ТАЛЕНТ РАСКРЫВАЦЬ ТАЯМНІЦЫ

**5 жніўня спаўняецца 70 гадоў з дня нараджэння выдатнага гісторыка-архівіста Віталя Скалабана. Менавіта як гісторыка-архівіста яго і ведаюць усе. Але варта памятаць, што Віталь Уладзіміравіч быў яшчэ і актыўным грамадскім дзеячам, выдатным энцыклапедыстам, краязнаўцам, літаратуразнаўцам. У гісторыі беларускай літаратуры ён адыграў сваю важную ролю. Галоўныя яго памкненні былі скіраваны на пошук забытых імёнаў і іх твораў, на пошук і публікацыю дакументаў, звязаных з жыццём і дзейнасцю такіх выдатных асоб, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі, Фабіян Шантыр, Карусь Каганец, Напалеон Чарноцкі і інш. Вынікі нястомнай працы Віталя Скалабана шчодра адлюстраваліся ў яго асабістым архіўным фондзе, што захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.**

Віталь Скалабан нарадзіўся 5 жніўня 1947 года ў вёсцы Шылавічы на Слонімшчыне ў сям'і настаўніка гісторыі і вядомага краязнаўца Уладзіміра Рыгоравіча Скалабана. Пасля лёс сям'і будзе цесна звязаны з Ляхаўшчынай, дзе прайшлі школьныя гады Віталя Уладзіміравіча і прыйшло першае натхненне і моцнае жаданне вяртаць людзям памяць пра слаўнае мінулае родных мясцін. Так быў прадвызначаны выбар жыццёвага шляху і навучальнай установы, дзе ён атрымаў выключныя веды і выдатную практыку па многіх гістарычных дысцыплінах, — Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Выбар месца вучобы быў невыпадковым: прыгожы горад з незвычайным лёсам стаў калыскаю многіх вялікіх беларускіх спраў, з ім звязаны імёны выдатных асоб Беларусі. Да таго ж менавіта ў Ленінградзе знаходзіліся архівы і бібліятэкі, дзе варта было працаваць: там чакалі свайго даследчыка вялікія скарбы беларускай гісторыі. Менавіта ў час свайго студэнцтва ён пачаў актыўную працу па пошуку архіўных крыніц, звязаных з людзьмі і падзеямі, пра якіх мы можам сказаць, што яны стваралі сённяшнюю Беларусь.

Першай газетай, куды даслаў свой допіс студэнт Віталь Скалабан з Ленінграда, быў штотыднёвік «Літаратура і Мастацтва». Ён беражліва захаваў у сваім архіве выразку з газеты ад 29.06.1968 са сваёй невялікай публікацыяй «Ленін распытвае пра Беларусь». Гэта кароткае апісанне агульнай фатаграфіі дэлегатаў Усерасійскага з'езда бежанцаў з Беларусі і самога з'езда. Аўтар не акцэнтаваў увагу на факце, які лёг у назву артыкула, а хутка і лагічна перайшоў да апісання грамадска-палітычнага і літаратурнага часопіса «Чырвоны шлях», які выдаваўся Петраградскім аддзяленнем Белнацкама і дзе быў змешчаны названы фотаздымак. Віталь Скалабан згадвае імёны Я. Карскага, Я. Купалы, А. Гурло, Ц. Гартнага, М. Гарэцкага і інш. У невялікай публікацыі аўтар, можна сцвярджаць, прагназуе сваю навуковую будучыню: пра многіх, як і на тэму бежанства, у будучым напіша артыкулы, падрыхтуе і выдасць зборнікі. Пра яго натхнёную працу ў архівах Ленінграда ў гады вучобы сведчыць яшчэ адзін факт. У лютым 1968 г. кіраўнік архіва літаратуры і мастацтва ў Мінску К. Жорава атрымала такую заяву:

*Дырэктару Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва БССР*
*студэнта гістарычнага факультэта Ленінградскага ўніверсітэта Скалабана Віталя Уладзіміравіча*

*заява.*

*У Цэнтральным дзяржаўным архіве ваенна-марскога флоту мной выяўлены дакументы аб службе паэта Алеся Гурло на Балтыйскім флоце: 1). Прыёмны фармулярны спіс А. К. Гурло (Ф. 989, 1914 г., спр. 112, арк. 526, 527, 528 дадаю фотакопіі гэтых дакументаў). 2). Алфавітны спіс вучняў машыннай школы № 5361 А. К. Гурло. Ф. 674, воп. 1, спр. 115, арк. 23 — 24. 3). Экзаменныя спісы А. К. Гурло Ф. 674, воп. 1, спр. 125, арк. 36 — 37, 75 — 76. 4). Спіс асабістага складу эсмінца «Забіяка» на 26 чэрвеня 1918 г. А. К. Гурло лічыцца маторным старшыной.*

Дата 1 лютага 1968 г. і асабісты подпіс.

Копіі названых у заяве дакументаў праз пэўны час былі дасланы ў Мінск у Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва. Пройдуць гады і Віталь Уладзіміравіч стане для архіва-музея літаратуры і мастацтва выдатным экспертам, натхняльнікам і, найперш, яго актыўным рухавіком у справе камплектавання. Гэта быў сапраўдны творчы саюз калектыву БДАМЛМ і гісторыка Віталя Скалабана. З яго ўдзелам і пры яго падтрымцы ў 2001 г. прайшлі першыя «Узвышаўскія чытанні», а пасля, праз усе



Т. Кекелева, В. Данекіна, Г. Запартыка, Г. Ляшук віншуюць В. Скалабана з 60-годдзем, 2007 г.

Фота з асабістага архіва Г. Запартыкі.

гады, ён быў самым актыўным іх удзельнікам: прапаноўваў тэмы, чытаў даклады, кіраваў канферэнцыйнымі секцыямі.

Універсітэт Віталь Скалабан скончыў у 1970 годзе і неўзабаве быў прызваны на службу ў Савецкую Армію. Служыў у ГДР. А з 1972 г., дваццаць тры гады, яго лёс быў прафесійна і творча звязаны з выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя»: з 1972-га працаваў рэдактарам, у 1992 — 1995 загадваў рэдакцыяй гісторыі Беларусі. Гэты перыяд біяграфіі стаў для яго часам актыўнага пошуку забытых імёнаў і гістарычных падзей, што нязменна патрабавала вывучэння архіўных фондаў і збірання дакументаў. У той жа час у 1987 г. Віталь Скалабан абараніў



Віталь Скалабан.

кандыдацкую дысертацыю на тэму «Беларускі нацыянальны камісарыят. Студзень 1918 — сакавік 1919 г.». Самым яскравым прыкладам выдатнай працы Віталя Скалабана — энцыклапедыста з'яўляецца збор дакументаў для кнігі «Памяць — Ляхавічы і Ляхавіцкі раён». Ён сведчыць не толькі пра яго высокія патрабаванні да такога роду выданняў, а і пра трапяткую любоў да сваёй малой радзімы. Ён з вялікай ашчаднасцю збярог усю перапіску, запісы гутарак з героямі артыкулаў, выразкі з газет, успаміны і сведчанні жыхароў, копіі дакументаў розных архіваў па гісторыі Ляхаўшчыны, калекцыю здымкаў, сабраную для ілюстрацыі кнігі, і інш. Цэлы краязнаўчы музей. Калі-небудзь гэта ўсё стане выдатнай крыніцай пры стварэнні такога музея ў Ляхавічах, пра які, дарэчы, заўсёды марыў Віталь Уладзіміравіч.

У 1995 г. Віталь Скалабан прымае цалкам вытлумачальнае рашэнне перайсці на працу ў архіўную галіну Беларусі, на пасаду намесніка дырэктара Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы. За пяць гадоў работы ў гэтай навуковай установе ён змог многае зрабіць у практычнай археаграфіі, у публікацыйнай справе невядомых архіўных крыніц, іх уключэнні ў навуковы ўжытак. У гэты перыяд ён працягвае актыўна займацца дакументальна-творчай спадчынай М. Гарэцкага, А. Уса, М. Мялешкі, Ф. Шантыра і іншых, працуе над зводным каталогам «Бібліятэкі Міхася Мялешкі» (Мн., 1998).

У 2000 г. сваю навуковую дзейнасць Віталь Скалабан працягваў ужо ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны і сваю работу ў ім цесна злучыў з тэмай краязнаўства. Праграмы, прапановы па праекце «Беларускае краязнаўства як гісторыка-культурны феномен», збор артыкулаў на тэму краязнаўства (многія з праўкай Віталя Уладзіміравіча і інш.) сведчаць пра яго мары і жаданні ўзняць краязнаўства ў Беларусі да агульнанацыянальнай ідэі. Самую каштоўную частку працы Віталя Скалабана на гэтай дзялянцы складаюць матэрыялы, сабраныя да даведніка «Беларускія краязнаўцы»: анкеты, бібліяграфічныя даведкі, перапіска і інш. На вялікі жаль, гэты праект не быў рэалізаваны.

Праз пяць гадоў Віталь Скалабан вярнуўся ў архіўную галіну, на гэты раз у аддзел публікацый Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, які з 2004 г. узначаліў. Гэта быў час росквіту публікацыйнай работы ў найбуйнейшым архіве краіны. Выходзілі адзін за адным зборнікі дакументаў па самых актуальных гістарычных тэмах, якім папярэднічала своеасаблівае ўсеархіўнае выяўленне крыніц. І распаўсюджвалася яно не толькі на архівы Беларусі, а і сягала ў малаасвоеныя намі на той час архівы Масквы, Пецярбурга, Кіева і інш. Ён валодаў талентам захапіць працай вялікую колькасць людзей, і гэта давала свае плённыя вынікі.

Варта згадаць яго ўклад у мастацкую творчасць і дакументальнае кіно. У гэтым шэрагу знаходзіцца найперш гістарычная драма «Людвіка і Фабіян», напісаная сумесна з Л. Рублеўскай, якая была пастаўлена аматарскім тэатрам. Ён быў суаўтарам літаратурных сцэнарыяў фільмаў "Тайны Грушаўскага палаца" (разам з У. Емяльянчыкам), «Імша па Купалу» (з Т. Процькай), «Справа Ігнатоўскага» і іншых.

На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў Віталь Скалабан радаваў усіх нас нечаканымі публікацыямі-адкрыццямі невядомых дакументальных крыніц, даючы магчымасць дакрануцца да таямніц гісторыі шырокаму колу чытачоў. Але адной з вялікіх яго заслуг перад навукай з'яўляюцца распрацаваныя ім у бегу ўсяго жыцця бібліяграфіі: каталог публікацый газеты «Вольная Беларусь» за 1917 год, іменная навукова-дапаможная картатэка з біяграфічнымі, бібліяграфічнымі запісамі і спісамі архіўных крыніц, тэматычная навукова-дапаможная картатэка па такіх тэмах, як «Маскоўскае зямляцтва», «Гістарыяграфія», «Сцяг, гімн», «Белнацкам» і інш., картатэка розных архіўных крыніц да зборніка «Купала і Колас, вы нас гадавалі». Усё гэта яшчэ чакае свайго даследчыка.

**Ганна ЗАПАРТЫКА**

# НОТЫ МАЛЕНЬКІХ СІМФОНІЙ




**Выдатна**, што часам можна «прыпыніць непазбежнасць» і няспешна прайсціся сцежкамі метафар і алегорый: элегічна-настальгічных, як у Віктара Шніпа, і гучна-дэкларацыйных, як у Хрысціны Гарвер. Дэбютантка і сталы майстра прадстаўляюць паэтычныя старонкі ліпеньскай «Маладосці». Лірычны герой Віктара Шніпа паглыбляецца ў скрушныя развагі пра чалавечую адзіноту на краі ўласнага сусвету, калі ўсведамленне нязменнасці мінулага ўспрымаецца без болю, бо незваротнасць найшчаслівейшых імгненняў умоўная — іх усё-ткі можна перажыць не толькі ў памяці, але і ў сузіранні — вечнасці заходу сонца, кахання, веры, адданасці. А вось гераіня Хрысціны Гарвер адназначна на іншым жыццёвым прыпынку, іншым узроўні спасціжэння сваёй унікальнасці:

*Я — бостава здольнасцей каштоўных*
*І адчуваць, і бачыць, чуць…*
*Але згубіла дар свой моўны:*
*Ўсё разумею і — маўчу.*

Праўда, у метафарычных снах пра Буду і нараджэнне шамана багата ад славянскага паганства, а некаторыя паэтычныя адкрыцці ўжо даўно гучаць як цытаты.

**На суд чытача** прадстаўляе свае заўважынкі Ганна Чакур. *Заўважынкі* — гэта нешта сярэдняе паміж падарожнымі нататкамі і допісамі ў сацыяльных сетках. Аўтар дзеліцца сваімі ўражаннямі з паездак у Германію, Польшчу, Літву, а таксама з наведвання некаторых беларускіх культурных імпрэз. У апавядальную канву ўплятаюцца ўспаміны дзяцінства, міжнацыянальныя культурныя аналогіі… і яшчэ багата чаго іншага, што заўважае Г. Чакур і лічыць вартым увагі. Паколькі працяг абяцаны ў наступным нумары, ёсць магчымасць праверыць, наколькі сталай будзе чытацкая цікавасць да прапанаваных *заўважынак*.

**Сумніўным** выглядае спосаб мастацкага ўвасаблення тэмы раскулачвання, абраны Таццянай Лашук. Апавяданне «Засеўкі» — гэта своеасаблівы творчы эксперымент, па-вучнёўску добрасумленна выкананае заданне па ўвасабленні моўна-стылёвай і тэматычнай стылізацыі: мы *нібыта* чытаем беларускую прозу 1960-х гадоў, але сапраўды толькі нібыта. Тыя героі (ці больш дакладна, мастацкія тыпы), тыя рэаліі, але адчуванне дэжавю не ўзнікае. Асноўная праблема ў мове — сучасная, па-кніжнаму неаўтэнтычнай і праз гэта часта штучнай.

Як бы мы, сённяшнія, ні намагаліся, у нас не атрымаецца адрадзіць у сваім штодзённым маўленні натуральную гаворку нашых бабуль і дзядуляў. На жаль. Стараннасць аўтаркі відавочная, імкненне ўшанаваць памяць бабулі, якой прысвечана апавяданне, відома, выклікае павагу. Ды і тэма — калектывізацыя, раскулачванне, знішчэнне традыцыйнага сялянскага ладу жыцця — бязмоўна, невычэрпная. Аднак звяртацца да яе мастацкага асэнсавання, відаць, усё-такі варта з аглядкай на творчыя здабыткі папярэднікаў, каб у параўнанні з апавяданнямі і аповесцямі Адамчыка, Пташнікава, Жука, Чыгрынава, Сіпакова і іншых (я ўжо не кажу пра Чорнага, Зарэцкага, Калюгу, Крапіву) новы твор не выглядаў бездапаможным.

Адзін з герояў рамана Андрэя Федарэнкі «Рэвізія», трапіўшы ў паралельна-ірэальным вымярэнні ў нашу вёску 1920-х гадоў, з імпэтам і натхненнем кінуўся занатоўваць аўтэнтычныя побытавыя рэаліі і моўныя канструкцыі, каб перадаць у сучаснасць… Але спыніўся, бо раптам усвядоміў бессэнсоўнасць сваёй задумы: вёска 1920 — 1930-х гадоў, тая самая беларуская атлантыда, якой даўно няма і больш ніколі не будзе, падрабязна і таленавіта апісана ў творчасці многіх пісьменнікаў. Варта проста не забывацца на гэта.

* * *

**Выдатнымі** празаічнымі тэкстамі Уладзіміра Сцяпана пачынаецца ліпеньскі нумар «Полымя». У. Сцяпан — творца з адметным стылем, пазнавальны з першых фраз: «Гэты ўспамін выглядае нейкім архаічным, амаль стагадовым, але гэта ўсё было са мной»; «Бывае, зойдзеш у раку і стаіш нерухома»; «Дзеду ішоў дзевяноста другі»… Доўжыць пералік першых нот маленькіх сімфоній можна далей, але і па прыведзеных прыкладах выдатна відаць: Уладзімір Сцяпан заўсёды пачынае аповед з нечага быццам бы другараднага, нязначнага. І ў той жа час гэтыя драбніцы маюць вялікае значэнне. Бясконцасць дзяцінства і ў сувязі з гэтым пэўная пазачасавасць успамінаў таго перыяду. Хуткаплыннасць усяго, якая ў часе выглядае поўнай нерухомасцю; чытай: вокамгненнасць чалавечага жыцця, у якой адначасова адчуваецца бязмежнасць. Вобраз чалавека, лаканічны, выразны штрых. Такія штрыхі ўласцівыя графіцы Сцяпана-мастака.

Так, Уладзімір Сцяпан — мастак у шырокім сэнсе слова, і стыль яго твораў, якому б віду мастацтва яны ні належалі, нязменна акуратны, дакладны ў выяўленні драбніц. Найбольшы талент, мабыць, палягае тут нават не ў падборы слова, а ў падборы дэталяў. Як ніхто Уладзімір Сцяпан умее адсейваць зерне ад штодзённай церухі. Напрыклад, не мае значэння, як звалі, якога года нараджэння быў бацька аўтара, як ён выглядаў, дзе працаваў. Але гэты чалавек сказаў сыну, што злавіў малька — вярні ў ваду. Аднаго выказвання дастаткова, каб убачыць чалавека.

Мастацтва бачыць, бачыць пранізліва, Уладзімір Сцяпан выхаваў у сабе праз уменне глядзець у сябе. Трэба быць смелым, каб навучыцца гаварыць сабе праўду, не маніць датычна адчуванняў і думак. Гэта надае чалавеку ясны зрок, амаль дзіцячы, калі рэчаіснасць успрымаецца такой, якая яна ёсць, без напластаванняў ацэнак, стэрэатыпаў, шаблонаў, усіх тых ярлыкоў, якія дарослы чалавек навешвае на наваколле, каб спрасціць сабе жыццё, сэканоміць час, які чым далей, тым больш ператвараецца ў грошы. І тут важна адзначыць, што Уладзімір Сцяпан паказаў сябе майстрам філасофскіх трохрадкоўяў, вядомых з кітайскай літаратурнай традыцыі. Думаецца, з часам каштоўнасць мастацкага слова Уладзіміра Сцяпана будзе толькі расці.

**Сумніўна** выглядае раман-споведзь Зоі Падліпскай «Маналог у паўстагоддзя…». Прызнацца, у пэўны момант сапраўды пачынае здавацца, што маналог гэты доўжыцца пару дзясяткаў гадоў. І такая адпаведнасць назве зусім не з'яўляецца добрай — у гэтым канкрэтным выпадку. Споведзь адрасавана маці. Гэта мусіла быць




нешта інтымна-кранальнае, зноў жа, з увагай да драбніц, якія раней, пры жыцці маці, адступалі на задні план, а цяпер, калі позна пра нешта казаць, бачацца самым значным сярод іншага. Аднак Зоя Падліпская з інтанацыі давяральнай, пяшчотна-даччынай, якую вось-вось гатова была ўзяць на пачатку твора, сарвалася на сухую наратыўнасць. Прычым галоўным зместам аповеду робіцца то гісторыя Случчыны, то гераічны подзвіг байцоў самых розных войнаў (і тут дадамо, што праўдзівасці ў такіх фрагментах у разы менш, чым рамантызму). Дайшло нават да гісторыі льнаводства на Беларусі. Якім чынам гэтыя тэмы вяжуцца са споведдзю да мамы — аднаму аўтару вядома.

**На суд чытача** пакідаем апавяданні Таццяны Будовіч-Барадулі. Відавочная датычна гэтых тэкстаў сублімацыя аўтаркі: у вобразах жанчын, такіх смелых, адчайных, незабыўна-драматычных, яна хацела б бачыць сябе. Апавяданні «Дарогі і сантыменты», «Даруй мне, Петрык!» злёгку сентыментальныя, злёгку іранічныя. Тыповая танальнасць чытва для жанчын. Аднак выцягвае іх з гэтага ўзроўню неадназначнасць фіналаў. Чытач можа ўспрымаць развязку літаральна, а можа зачапіцца за нейкую дэталь, задумацца, зразумець, што ўсё не так адназначна. Напрыклад, другое апавяданне можа падштурхнуць да думкі, што галоўны мужчынскі персанаж зусім не герой, няўпэўнены ў сабе чалавек, якому патрэбна самаахвярнасць, каб адчуваць сябе жывым. Ці не пакінуў ён сваю абранніцу за тое, што яна аказалася не такой слабой, як думалася?.. Героі Таццяны Будовіч-Барадулі часта інфантыльныя, адарваныя ад рэальнасці, а гэта таксама нагода падумаць, ці здольныя мы самі ўсведамляць наступствы сваіх учынкаў і ці такія мы разумныя, як нам часта думаецца.




* * *

**Выдатна.** Раман Дэна Брауна «Код да Вінчы» — незабыўная кніжная сенсацыя пачатку XXI стагоддзя. Гісторыя прафесара Роберта Лэнгдана пачалася ў рамане «Анёлы і дэманы» (2000) і атрымала працяг у «Страчаным сімвале» (2009) і «Інферна» (2013). «Страчаны сімвал» — таксама бестселер — прысвечаны руху масонства, што надзвычай зацікавіла аўтарку публікацыі «Памылка "рэзідэнта" Брауна» Алену Чыжэўскую. Шаноўная аўтарка — асоба вельмі дасведчаная ў пытанні рэлігійных рухаў і таямнічых ідэалогій. З яе тэксту можна даведацца не толькі пра хітраспляценні сюжэта, але і пра прыхаваныя намеры аўтара ў плане фарміравання чытацкага стаўлення да дзейнасці масонскіх ложаў. На пятнаццаці часопісных старонках можна знайсці нямала цікавых звестак пра масонства. І хай сабе аўтар непрыхільна ставіцца да «славалюбных палітыкаў, саманадзейных навукоўцаў, карыслівых літаратараў, бесчалавечных фінансістаў і проста сябелюбных пасрэднасцей», галоўнае, што яе тэкст атрымаўся жывым і вельмі інфарматыўным!

**Сумніўна.** «Таямнічую» тэму ў сёмым нумары «Нёмана» адкрывае апавяданне Валяр'яна Кісліка «Прывід вілы Медычы». Каля знакамітай вілы, у якой жылі і працавалі вядомыя мастакі, расійская турыстка заўважае самотнага мужчыну ў чорным касцюме. Высвятляецца, што гэта мастак Васіль Пукіраў, які сышоў з карціны, каб агледзець сучаснае, камфортнае жыццё. Пасля гэтага выпадку многія персанажы вядомых палотнаў пачынаюць вандраваць па карцінах, мастацкіх галерэях і нават гарадскіх вуліцах. Цікавае здарэнне! Але адну і тую ж гісторыю можна распавесці па-рознаму: каб чытач задрыжэў ад вусціішы, альбо задумаўся пра магутную сілу мастакоўскага таленту, альбо зацікавіўся біяграфіяй пэўнага творцы... У сэнсе ўздзеяння на чытача апавяданне В. Кісліка цяжка назваць «эфектным». Напачатку аўтар сцвярджае, што апісвае гісторыю, пачутую ад шчырых людзей, і не сумняваецца ў яе праўдзівасці, потым абсалютна сур'ёзна апісвае самыя неверагодныя акалічнасці... Чытач наўрад ці паверыць у рэальнасць здарэння і будзе марна чакаць альбо іранічных заўваг, альбо містычнага жаху, альбо займальных падзей накшталт знаёмстваў сучаснікаў з персанажамі вядомых карцін.

У гэтым нумары змешчаны яшчэ адзін аповед пра неверагоднае здарэнне — апавяданне Міхаіла Смірнова «Язык». Язык крыху нагадвае гогалеўскага Носа — ён шукае лепшага гаспадара і вызначае, «каму на Русі добра жыць», бо трапляе да людзей розных сацыяльных статусаў. Гэты твор не столькі фантасмагорыя, колькі сацыяльная пародыя, і дзіўнае здарэнне, якое «знайшло сябе» ў гэтым жанры, не выклікае непаразумення — у адрозненне ад апавядання Валяр'яна Кісліка.

**На суд чытача.** Жанр эсэ прываблівае многіх даследчыкаў парадоксамі гісторыі і парадоксамі тэкстаў. У артыкуле «Эсэ: (не)свабодны жанр» Ірына Бажок звяртаецца да самых вядомых эсэ сусветнай і беларускай літаратуры. Цікава, што сярод аўтараў першых вядомых нам эсэ былі не толькі мужчыны (філосафы Плутарх і Мішэль Мантэнь), але і фрэйліна Сэй Сёнагон, якая прыслужвала сям'і японскага імператара. Да жанру эсэ сёння звяртаюцца многія беларускія літаратары, і супастаўленне іх твораў — адна з самых цікавых частак артыкула.

**Жана КАПУСТА,**
**Наста ГРЫШЧУК,**
**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Казка пра ваду і рэшата

**Шумны перапынак, дзеці носяцца, а адзін сядзіць, занураны ў кніжку. Яго не цікавяць гарманальныя гульні аднагодкаў, дыскатэкі, эксперыменты з рэчывамі. У вачах статка ён маргінал.**




Яшчэ карцінка: класічны жаночы калектыў, у якім ёсць дзяўчына, далёкая ад размоў пра тое, хто, дзе і калі выйшаў замуж. Са смакам разжаваныя плёткі, аздобленыя гіпотэзамі і падрабязнасцямі, разбіваюцца аб гэтую скалу. Тупіковая галіна, скажуць каляжанкі. Маргінал.

Такімі летуценнікамі поўняцца кнігі Людмілы Рублеўскай. Яны ў цэнтры ўвагі класічнай рамантычнай літаратуры. Што да рэальнасці, у якой ніцшэанская малпа з'яўляецца галоўным персанажам, то жыццё выштурхоўвае такіх на ўзбочыну. Цытуючы Кірыла Стасельку, «на палі». Другі яго раман «*Marginalis*» выдатна гэта ілюструе.

Пра «*Marginalis*» найперш кажуць — паўтары сотні персанажаў, дзясяткі краін, сотні гадоў… Але ўсё гэта толькі фармальны бок, варты ўвагі толькі ў тым выпадку, калі ён мае лагічную запатрабаванасць. Якую ролю адыгрывае такая «маштабнасць»?

Незалежна ад эпохі, геаграфіі, палавой прыналежнасці ці ўзросту ёсць людзі, якім мала спаць, есці і множыцца. Нават больш: гэтая прыступка імі часта абмінаецца. У іх ёсць Ідэя, якая цалкам замяняе базавыя патрэбы. Яна запаўняе думкі, памкненні, кіруе лёсамі людзей замест інстынктаў. Калі паглядзець здалёк, то выглядае прыгожа. Але насамрэч такая апантанасць ніколі не прыносіць таго, што завецца простым шчасцем. Жыццё паказвае: як сябе ні падманвай, першую прыступку славутай піраміды не пераскочыш.

У гэтым плане Кірыл Стаселька паказвае сябе рэалістам. Цэнтральныя персанажы рамана трапляюць пад уладу такой вялікай Ідэі, і Ідэя разбурае іх.

Сімвалічным выяўленнем Ідэі ў «Marginalis» выступае таямнічая Кніга. У ёй сабраны ўсе веды чалавецтва, зашыфраваныя ў розных сістэмах, на розных мовах, што таксама дае магчымасць захаваць пісьменнасць розных народаў, у тым ліку тых, што выміраюць. Займець ключ ад гэтай кнігі — усё адно што зняць вяршкі з вечнасці, прынамсі з таго яе адрэзку, у якім існавала чалавецтва. Жаданне мець больш, чым табе дадзена, стаць выключным, адзіным, абранікам падштурхоўвае персанажаў кнігі ўсё бліжэй да бездані, аднак асепленыя святлом мары яны не бачаць рызыкі.

Цікава, што аўтар так і не даў сваім героям наблізіцца да разгадкі пісьмёнаў. Кніга так і засталася пытальнікам. Усе сюжэтныя лініі, якія разбягаюцца ад Кнігі, бы тонкая павуціна з логава драпежніка, — гэта толькі пошук разгадкі, пакутлівы марш-кідок праз церні, за якімі зораў нават не відаць: яны малююцца толькі ў марах.

Для разумення рамана выключна важна адзначыць, што сама Кніга ўсяго толькі міраж, прывід, нават калі герой трымае яе ў руках. Адзін з персанажаў, лінгвіст Джэйк Джонс, задаецца пытаннем: ці не фікцыя гэта?.. Падобныя думкі ўзнікаюць у журналіста Карласа і мастацтвазнаўцы Мары, але ўсе яны адмахваюцца ад прыкрай здагадкі: апантанасць мэтай засціць розум.

Пасля ўсведамлення гэтага факта можна смела казаць пра падабенства паміж пошукам ключа да кнігі і пошукам сэнсу жыцця. Трагічны парадокс, невычарпальны ў гісторыі чалавецтва: жыццё ляжыць разгорнутай кнігай, толькі выйдзі за парог, а мы (ці, прынамсі, пэўны адсотак з нас) б'ёмся галавой аб сцяну ў святой упэўненасці, што вось зараз, яшчэ трошачкі — і мы зразумеем, навошта сядзім у чатырох сценах.

Гэтую хваробу мыслення (сапраўды, кніга магла б звацца «Гора ад розуму») Кірыл Стаселька выдатна ілюструе. Згадаць галоўнага завадатара — фларэнтыйца Сімонэ. Хлопчык меў вялікі дар, але яшчэ большымі былі яго амбіцыі. Ён хацеў стаць аўтарам найвялікшай кнігі ў гісторыі, а стаў здраднікам, самотнікам, разбэшчаным багацеем і ў выніку напаткаў ганебную смерць. Невядомы лёс таленавітых юнакоў, якіх Сімонэ пацягнуў за сабою. У адзіноце і з разбітым сэрцам застаўся яго настаўнік.

Усе персанажы рамана «*Marginalis*» мелі даволі для шчасця: гэта блізкія людзі, гэта любоў, якую трэба вучыцца гадаваць, гэта магчымасць працаваць і быць сумленным чалавекам. І ўсе яны зрабілі фатальную памылку: прамянялі сініцу ў руках на жураўля ў небе.

Аўтар іх не асуджае. Наадварот: такая апантанасць, жаданне мець больш, дайсці да канца захапляюць. Але раман дае нагоду падумаць: ці так нам патрэбна тое, за што мы б'ёмся? Ці не вартыя зоры над нашымі галовамі большай увагі, чым тыя, што схаваны за цернямі? І чаму міраж здаецца чалавеку больш прывабным, чым тыя рэальныя рэчы, што нас акружаюць?

Такія пытанні, пэўна, і даюць падставу назваць «*Marginalis*» філасофскім раманам (так, прынамсі, сцвярджае анатацыя).

Шматлікасць персанажаў і рэалій, у якіх тыя існуюць, далі аўтару выдатную магчымасць: расказаць у межах аднаго рамана некалькі цікавых гісторый, якія, не выходзячы за межы асноўнай праблемы, падымаюць шэраг вострых, цікавых пытанняў. Напрыклад, гісторыя пра эксперымент з пабудовай камунізму — маленькая антыўтопія, якая можа жыць адасоблена ад цела рамана. Тут Кірыл Стаселька паказвае сябе пераканаўчым песімістам. Моўнае пытанне, надзвычай актуальнае для сучаснай Беларусі, нечакана паўстае ў гісторыі навукоўца Джонса. Цікава, што аўтар выказвае наконт гэтага думку, якая ў беларускамоўным асяроддзі зазвычай выклікае істэрыю. Але я з меркаваннем аўтара пагаджуся.

Трэба сказаць, што ў моўным плане Кірыл Стаселька пакуль застаецца на ўзроўні «Дзіцячага маніфеста»: пэўная штучнасць зваротаў захавалася. А моцны бок аўтара «*Marginalis*» па-ранейшаму ў лаканічнасці, якая, у сваю чаргу, надае аповеду пэўную адцягненасць, нават калі аўтар прамаўляе ад першай асобы. Менавіта такога апавядальніка, аўтара займальных гісторый, які не прэтэндуе на ўсёведнасць і нават ускосна, праз вусны персанажа, не павучае чытача, моцна не хапала. Прынамсі, мне.

**Наста ГРЫШЧУК**

# ПАЧУЦЦІ, ПАКЛАДЗЕНЫЯ НА ЛІТАРЫ

Зборнік выбраных руска- і крыху беларускамоўных вершаў Сабіны Брыло «Это буквы» ўжо сваёй назвай дае зразумець, што шукальнікам глыбіннага сэнсу ў паэзіі будзе адначасова вельмі цікава і незразумела. Але таямнічыя сэнсы шукаць не варта: вершы С. Брыло простыя і прамыя, іх нават можна назваць своеасаблівымі дзённікавымі запісамі. Адны больш інтымныя, пачуццёвыя, іншыя — пра калготкі, якія вісяць на крэсле. І вобразы, і метафары ў асноўным побытавыя, «жыццёвыя».

Сабіна Брыло не ставіць мэту ўразіць чытача хітрым паэтычным радком або мудрагеліста замаскіраваць свае любоўныя праблемы пад дываном з метафар пра высокае. Яна быццам піша як ёсць, як прыйшло ў галаву, як сцягнулі з канапы пасярод дня за ручкай з нататнікам. Многія вершы нібы не скончаныя ці быццам кінутыя на паўслове, нібы перарваная думка, якая і ў поўным варыянце пакінула б больш пытанняў, чым адказаў, а зараз і зусім нядобра чапляе сваёй нявызначанасцю. Тыя, хто любіць даступныя і «агульназразумелыя» вершы, хутчэй за ўсё, не будуць задаволены.

Але зборнік С. Брыло каштоўны не ступенню чыстага разумення яго чытачом. Ён каштоўны непатрабавальнай шчырасцю, непрыхаванай непрыгожасцю чалавечага жыцця і няўрымслівасцю думкі. Спалучэнне гэтае вельмі своеасаблівае:

*Когда кто-то другой любит того, кого любишь ты —*
*Это невыносимо и кажется несправедливым.*
*По логике текста, здесь должно быть какое-то «но» —*
*Но я не знаю, какое, — и его здесь нету.*

Чытаючы такую паэзію, можна або абурана адкінуць кніжку ўбок са словамі: «Аўтар наогул дбаў пра форму, пра ідэю?»; або ашалела саскочыць ужо са сваёй канапы і закрычаць: «Вось яно! Я гэта разумею, я гэта адчуваю!».

Тэма любві — рамантычнай, сексуальнай, сямейнай, да сябе — праходзіць праз увесь зборнік. Яе вечна не хапае, але яна нясцерпна патрэбная. І да такой ступені, што лірычная гераіня гатова хоць параўноўваць сябе з ежай у халадзільніку, хоць марыць пра тое, каб стаць гасцініцай: абы ўпусціць у сябе як мага больш людзей.

*Если бы я была домом,*
*И у меня был выбор —*
*Каким домом мне быть, —*
*Я бы сделала выбор*
*Не в пользу семейного дома —*
*Я бы стала гостиницей.*

У камплекце з «вечнымі тэмамі» ідзе вобраз маці і жанчыны — і часцей ён сумны, варты жалю або зусім жудасны. Ён настолькі прасякнуты пахам варыўні, бытавухай і чужым непатрэбным успрыманнем «цябе», што робіцца маркотна, калі ўспамінаеш: так і жывём. Заўсёды холадна, заўсёды ежа (ці ты яе, ці ты — яна, нават калі са згоды), заўсёды трэба імкнуцца быць некім іншым, не сабой.

*когда ты спрашиваешь:*
*ну, что опять задумалась? —*
*я думаю, есть ли еще в мире*
*хотя бы одна шутка,*
*которой не нужно подыгрывать.*




Рамантызацыі ў вершах С. Брыло няма. І калі паглядзець на зборнік строга, забыўшыся на хвіліну пра лірыку і паэтычныя ўздыхі, то «Это буквы» — кніга пра дэпрэсію. Гераіня з верша ў верш дэманструе фармальныя прыкметы чалавека ў дэпрэсіі: увесь час ляжыць, сябе не глядзіць, нават сіл прычасацца ў яе няма. Увесь зборнік — як адно вялікае чаканне чагосьці, безэмацыянальнае, пазбаўленае сэнсу.

Загалоўны верш зборніка на самай справе ўяўляе сабой вельмі паказальную сітуацыю кантэкстуальнай інтэрпрэтацыі. А таксама — найлепшага ў паэзіі Сабіны Брыло. Нейкай калі не самаіроніі, то самасумленнасці. Маўляў, я магу напісаць пра што пажадаю. І пра боль, і пра цэтлікі, і пра тое, як неабходна заставацца сабой у свеце, які абавязкова чакае ад цябе таго, што ты не можаш і не хочаш рабіць.

*Когда все это*
*Все это*
*Все*
*Превращается в буквы —*
*Смотришь на буквы,*
*Думаешь: это буквы.*

Верш нібы расшыфроўвае назву зборніка, у ім гераіня нібы папярэджвае: тут можа і не быць тых патаемных сэнсаў, якія вы хочаце ўбачыць. Пачуцці, пакладзеныя на літары, — гэта проста літары. Аўтар вельмі сумленная ў гэтым плане: яна як бы і не прэтэндуе на ўрачыстае ўнясенне сваіх твораў у спіс Высокай Паэзіі. Яна проста выдала зборнік літар, якія, магчыма, штосьці для яе значаць і якія, магчыма, не значаць нічога для кагосьці іншага. І гэта па-свойму займальна: як прыйсці на ўрачыстую вячэру ды замест шыкоўных страў убачыць на стале засохлы хлеб, недаедкі ад снедання… І не прыдрацца — труфеляў ніхто і не абяцаў.

Гэты верш хутчэй пра дысацыяцыю, чым пра сэнс і тое, з якім узрушэннем мы шукаем яго ў чужых літарах:

*Между добром и злом — выбрал меня.*
*Не лучшее, но, слава Богу — не вечное.*

**Валерыя ДЗЯТКОВА**

Сяргей ПАНІЗНІК



## 500-ГОДНАСЦЬ

## Вяртальны шлях Скарыны

*Шлях нашых продкаў —*
*над ноччу маёй вартоўнай.*
*Слухаю вейкамі, вуснамі.*
*Час пазнаю навобмацак…*
*Прага раскошная*
*ўчора збірала гатоўна*
*дзіўнага госця ў дарогу*
*далёкую — ў Полацак.*
*Дбайна рыпелі вазы,*
*ўгінаючы землі Еўропы.*
*І падпадалі пад колы*
*вячэрнія цені і золакі.*
*Хутка я з Прагі*
*вярнуся дадому таропка*
*з кладам, каштоўней*
*купецкага срэбра і золата.*
*Кнігі пачнуць перапісваць,*
*а дзесьці — паніщчаць.*
*Мяне ўзнагародзяць чужыя,*
*ганьбіць пачнуць — суродзічы.*
*На Старамесцкія шпілі*
*мой Ветах стагоддзі наніжа:*
*з герба на неба*
*крывіцкае сонца выводзячы.*
*Сціхла рыпенне.*
*Не чуюцца шоргаты кніжак.*
*З ночы вартоўнай*
*ціхутка вярнуся да хаты я.*
*Вільню і Полацак*
*бачу з-пад промняў увішных…*
*Біблії шлях — даўні шлях*
*нашых продкаў нагадвае.*

***1995***

## Павучанні Палачаніна

Не многым учителем бывати,
но более умети язык свой справовати…

**Францыск Скарына**

*Мая парада, светлыя сябры, —*
*лагодным словам смела прычасціцца.*
*Бо сам я мітусіўся да пары,*
*скакаў, як тая — восенню — сініца.*

*Прыходзіць разуменне спакваля.*
*Мне сорамна было між добрых людцаў*
*да мовы акалелай прыгарнуцца,*
*сказаць, хто я і дзе мая зямля…*

*Таму і зычу шчыра, дружбакі,*
*жывыя струны абуджаць у сэрцы, —*
*бо на яго наматваць давядзецца*
*балюча-ачарсцвелыя вякі.*

*А гэтая работа, знаю сам,*
*не даспадобы розным маралістам…*
*…Яшчэ і сёння ў Менску многа свісту.*
*Я ж зычу Волю чыстым галасам.*

*З нас кожны несмяротны толькі тым,*
*што ёсць Айчына — мацярык для Ведаў.*
*Прыслухайцеся вы да запаветаў,*
*дзе кожны кліч належыць маладым.*

*І хай адчуе*
*Бацькаўшчына*
*ўздым !*

***1989, 2017***

## Маё развітанне з Прагаю

*Як маці ўсіх добрых размоў —*
*зрудзелая кніга… Скарына,*
*дазволь мне вярнуцца дамоў*
*і за Цябе, і за сына.*

*Ты ж зелле нясі каралю,*
*гаючымі травамі ўвіты…*
*…Ля Полацка — хто? — кім? — у зямлю*
*калісь быў штыкетнік убіты.*

*Даў водмаладзь. Да бальшакоў,*
*як волаты, дрэвы ступілі.*
*…Пытаю праз далеч вякоў:*
*«Завошта цябе не ўзлюбілі?»*

*Выгнаннік. На роднай зямлі*
*ты меў толькі краты і путы…*
*Без Бацькаўшчыны, без сям'і*
*стаяў перад чарай атруты.*

*А можа, і выпіў… (Кароль*
*надпіша паперы на спаткі!)*
*Ад Прагі да Полацка — золь.*
*Праз восень ляту без аглядкі.*

*А мы вось, як Ты, ці любі…*
*Пад роднымі зорамі, небам*
*любоў стала пылам, ці хлебам,*
*а можа, атрутай — і ні!*

*Ад Прагі да полацкіх вех*
*у чэшска-гусіцкай трывозе*
*на бераг прыдзвінскі прыбег.*
*Ты ж — тут!*
*Нам цяпер — па дарозе!*

***Прага — Уручча. 1973—1995***

## Наўздагон Сымону Буднаму

«Катэхізіс» Сымона Буднага —
кніга кароткіх
пытанняў і адказаў —
была выдадзена 10.06.1562 г.
у Нясвіжы віленскімі шрыфтамі
Ф. Скарыны

*— Не знік ты, Беларус?*
*— Іду, збіраю сілы*
*дарогай, дзе стаяць Дубок, Бяроза, Клён.*

*— Што хочацца сказаць?*
*— Пра што маўчаць магілы:*
*злучыць сваё імя з мільёнамі імён.*

*— Чым дзейсны, Беларус?*
*— Яшчэ ідзе стварэнне…*
*Здымаю абручы з грудзей і галавы.*

*— Ішоў ва ўслугачы?*
*— …Ламалася цярпенне;*
*ў каго расла любоў — выглядваюць з травы.*

*— Прызнаны, Беларус?*
*— Прайшоў вякоў напасці.*
*Перажываў і ўзлёт…*

*— Быў летаргічны сон?*
*— Прымаў крывіч, ліцьвін*
*Нябеснае Прычасце.*
*Вунь помнікі стаяць:*
*Дубок, Бяроза, Клён.*

*— Прыціх Народны Фронт?*
*— Яшчэ ідзе Пагоня —*
*будзіць нямы палон і страты*
*ўсе вярнуць.*

*— І Мову абдымаць?*
*— Мы ўсім суседзям — роўня.*
*Хай зычны Радавод і дзеці берагуць.*

*— Няўжо той Беларус —*
*няўклюда-недарэка*
*дзяржаўны небасхіл узвысіць*
*з-пад званіц?*
*— Скарына праз вякі з Варагаў*
*вёў да Грэкаў!*

*Мы стрэлы палачан прытулім*
*да байніц.*
*Дубок, Бяроза, Клён — Скарыны легіён.*

***1.12.1989, 20.07.2017***

## Пажытак

Усялякае Слова,
Богам натхнёнае, — карысна!
Яно вучыць, выкрывае,
выпраўляе і карае!

**Францыск Скарына**
**(Паводле прадмовы да «Псалтыра»)**

*Пайду, падумаю… Паеду…*
*На час няўродны адлучуся.*
*Хай Беларусь —*
*Каханка-Веда —*
*паверыць, што і я вучуся*
*у Празе, Кракаве, у Львове…*
*Радню шукаю ля Таронта…+)*
*Крутыя ў нас шляхі любові,*
*ліхія думаў гарызонты.*
*Была спагада да Майсея:*
*маца, разлом вады, скрыжалі…*
*Пажытак свой мы паважалі.*
*А сталі з кнігамі вітрыны*
*падкрылкамі для Беларусі?*
*Пайду, падумаю… Вярнуся,*
*адкрыю Біблію Скарыны.*
*Пакуль у Слова не ўвапруся, —*
*не нажыву сваёй Краіны.*

*Сям'я Георгія Яна Скарыны знаходзілася ў Мексіцы, Стэнлі (Станіслава) Скарыны — у Канадзе.*

***18.02.2006, 16.12.2015, 2017***




*Фота Кастуся Дробава.*

Лёля БАГДАНОВІЧ



***

*Мова сціплая беларуская*
*У бурках дзедавых ды пад хусткаю,*
*І балючая, і ласкавая,*
*Галубіцаю ў небе плавае.*

*Грае гуслямі, вабіць кветкамі,*
*Ззяе сонейкам над палеткамі,*
*Перапёлачкай заліваецца,*
*Жытнім коласам наліваецца.*

*Грэе коўдрамі даматканымі,*
*Лашчыць зоркамі закаханымі.*
*І шчымлівая, і прыгожая,*
*Песняй мамінай заваражана.*

*Мова родная, не замежная,*
*Самастойная, незалежная.*
*Як вясёлачка, каляровая.*
*Ганаруся я роднай моваю!*

## Спыніся, момант!

*Каханне крылатыя словы*
*Угору, як птушкі, ляцяць.*
*Паслухаеш родную мову —*
*І хочацца песні спяваць.*

*Пра маці, пяшчоту і згоду,*
*Пра мужнасць дзядоў і бацькоў,*
*Пра тое, што помнім заўсёды,*
*З якіх мы пайшлі каранёў.*

*Пра тую вярбу, пад каторай*
*Алёна ўпусціла ручнік,*
*Пра родны мой край непаўторны,*
*Пра лугу саспелага зык.*

*Калі дыяментам на золку*
*Мурог вышывае раса,*
*Купаецца ў рэчцы вясёлка,*
*Як скрыпка, спявае каса —*

*Душа раскрыецца насцеж,*
*Напоўняцца вочы слязой,*
*І зойдзецца сэрца ад шчасця:*
*О, момант цудоўны, пастой!*

## Дзе палыхае зарыва брусніц...

*Сярод лясоў, абшараў і балотаў,*
*Дзе палыхае зарыва брусніц,*
*Дзе лесавік вандруе ў доўгіх ботах*
*І жураўлінаў — вока не спыніць,*

*Буслы на сенакосе гаспадараць,*
*Баравікоў збярэш паўнюткі мех,*
*Дзе песціць сонца стомленыя мары*
*І чуецца дзіцячы звонкі смех,*

*Гучаць, як гуслі, трапяткія словы —*
*Яны тут нарадзіліся здаўна.*
*Нідзе мякчэйшай, прыгажэйшай мовы*
*За нашу, мілагучную, няма!*

## Словы кахання

*Кажы мне словы пра каханне,*
*Сваёй пяшчотай спавівай.*
*Няхай душа мая адтане*
*І супакоіцца няхай.*

*Хай зіхацяць ад шчасця вочы,*
*А вусны прагнуць вуснаў зноў.*
*Хай след у след за мною крочаць*
*Надзея, вера і любоў.*

*Кажы мне словы пра каханне*
*І добрых словаў не шкадуй.*
*Надзея сэрца хай падмане*
*І адвядзе убок бяду.*

*Сягоння ў нас начуе згода.*
*А заўтра?.. Божа, памажы,*
*Каб і праз тыдзень, і заўсёды*
*Спяваць хацелася і жыць.*



Андрэй СІДАРЭЙКА

# Залатая рыбка

## З нататак пісьменніка-пачаткоўца

У майго сябра ёсць акварыум. У ім — восем залатых і адна чорная рыбка. Таварыш лічыць: водныя пазваночныя зробяць яго жыццё лепшым без асабістых намаганняў. А ўсё таму, што лічба «9» (менавіта столькі рыбак у акварыуме) сімвалізуе гармонію неба і зямлі, забяспечвае шчасце, росквіт і поспех.

— Адкуль ты гэта ўсё ведаеш? — пытаюся ў яго я.

— Пачытаў спецыяльную літаратуру. Дарэчы, у Кітаі рыба лічыцца сімвалам багацця, — расказвае сябар і дадае: — Сімвал, як і талісман, дапамагае выконваць жаданні. Аднойчы рыбе надакучыць плаваць па перыметры акварыума і яна здзейсніць маё.

— Ты на самай справе ў гэта верыш? — дзіўлюся я.

— Так.

З таварышам я пазнаёміўся сем гадоў таму ва ўніверсітэце. На той момант нам было па дзевятнаццаць. Абодва юныя таленты — будучыя спецыялісты ў галіне радыёэлектронікі.

Адпрацаваўшы неабходныя два гады па спецыяльнасці, мы расчараваліся ў нашым выбары і пайшлі з прафесіі. Сябар зарэгістраваўся індывідуальным прадпрымальнікам па грузаперавозках. Некалькі разоў на тыдзень ён выязджаў па заяўках. Астатні час быў дома. Здаецца, клопат пра рыбак — адзінае (калі не лічыць машыны), што цікавіла яго ў жыцці.

Ува мне ж абудзілася прага да чытання і мовазнаўства. За год пасля заканчэння навучальнай установы я прачытаў больш, чым за папярэднія дваццаць чатыры гады. А нядаўна вырашыў напісаць апавяданне.

Нягледзячы на занятасць, раз на месяц мы з таварышам абавязкова бачыліся. Разам абедалі, гутарылі, а пасля разыходзіліся.

Так, як пясок скрозь пальцы, праходзіла нашае жыццё.

Вярнуўшыся гэтым разам дадому ад сябра, я вырашыў добра паабедаць. Зайшоў на кухню, уключыў тэлевізар і пачаў гатаваць. У гэты час ішоў фільм пра Хатабыча. «А можа, цуды ўсё ж існуюць?» — падумаў я. Але, хутчэй за ўсё, у цуды хочуць верыць людзі. А на самай справе — каб рыбку з'есці, трэба ў ваду лезці.

Нечакана ў дзверы пазванілі. На парозе стаяў сусед. Звычайна ён заходзіць да мяне што-небудзь пазычыць. Гэтым разам па соль прыйшоў.

— Скажы, ты б хацеў, каб у цябе быў акварыум, а ў ім — залатая рыбка? — запытаўся я ў суседа.

— Не-е. Акварыум чысціць трэба. Рыбку — карміць. Шмат клопату.

— А калі б яна выконвала твае жаданні?

— Тады б няхай была.

— Якія жаданні ты б загадваў?

— Не ведаю. Але, да прыкладу, у краму не хадзіў бы. Навошта? Усё з'яўлялася б само. І грошы ў цябе не пазычаў бы. Залатая рыбка — гэта добра. Але дзе ж яе возьмеш?

Сусед выйшаў. Пэўна, такія размовы яго не цікавілі.

Бліжэй да вечара я сеў за апавяданне. Яно «забуксавала» на сярэдзіне, героі застылі на месцы. Часам я пытаўся ў іх: «Чаго вы хочаце? Што рабіць з вамі далей?» Але яны маўчалі. Я думаў, што ўся гэтая задума з творам не вартая і выедзенага яйца. І, хутчэй за ўсё, гэта графаманства. Але мне хацелася скончыць пачатае, дайсці да мэты.

І зноў паўстала пытанне пра залатую рыбку. Калі ў мяне была б такая палачка-выручалачка, я даўно б завяршыў твор. Прычым без асаблівых намаганняў. Але залатой рыбкі не было, а для дасягнення мэты трэба прыкласці нямала намаганняў.

Я перачытаў апавяданне ад пачатку да апошняй кропкі некалькі разоў. Зразумеў, што сёння не змагу напісаць і радка. Таму вырашыў пакінуць гэтую справу да заўтра.

***

Зазваніў тэлефон. Знаёмая. Ёй сумна, але была б не супраць прагуляцца па начным горадзе. Я згадзіўся скласці ёй кампанію. Звычайна мы сядзім у кавярні і расказваем пра набалелае.

Знаёмую завуць Маланння. Даволі рэдкае імя. Да нашага знаёмства я такога ніколі не чуў. А пасля доўга запамінаў.

Можа быць, я і не сустракаўся б з Маланняй. Але побач з ёй я адчуваў сябе не лузерам, не абывацелем, а Ротшыльдам ці Дастаеўскім. Кім адчувала сябе са мной Маланння, сказаць не бяруся. Можа, ёй дастаткова было таго, што я ўспрымаў яе такой, якая яна ёсць…

Мы сустрэліся ў прызначаны час. Гэтым разам Маланння адмовілася ад кавярні.

— Мы кудысьці ідзём? — пацікавіўся я.

— Не.

Наступныя дваццаць крокаў зноў прайшлі ў цішыні.

— Здаецца, я закахалася, — сказала нарэшце Маланння.

— І? — запытаўся я.

— А ён не ведае.

— Гэта цікава.

— Усё складана, — сказала сяброўка. — Калі б у мяне была залатая рыбка...

— Дык што?

— Яна зрабіла б усё так, як таго хочацца мне.

У апошні час цень залатой рыбкі хадзіў за мной следам.

— А джыну з бутэлькі не верыш? — паспрабаваў пажартаваць я.

— Не. Джын — мужчына. Ён не зразумее, — на поўным сур'ёзе адказала Маланння.

Мне на імгненне здалося, што Маланне зусім не ўпэўненая ў сабе, яна такі ж абывацель-лузер, як і я. І што менавіта ў гэтым мы падобныя, таму нам і цікава бавіць час разам.



Калі я вярнуўся дадому, ішла дванаццатая гадзіна ночы. Але спаць не хацелася. Я ўключыў настольную лямпу, прыняўся за аповед. Ён зноў «забуксаваў». Я выйшаў на балкон. Горад маўчаў.

***

Праз некалькі дзён да мяне зазірнуў сябар. Ён прынёс невялічкі слоік, у якім сядзела божая кароўка. У накрыўцы былі зробленыя дзірачкі для паветра. У слоіку ляжала трава. На адной з травінак сядзела кузурка.

Я запытальна паглядзеў на сябра.

— Прыносіць поспех, — сказаў ён.

— А навошта?

— Табе не патрэбны поспех? — у сваю чаргу спытаў сябар.

— Не перашкодзіў бы, — трохі падумаўшы, адказаў я.

— Ну вось.

Мы папілі кавы, пагаварылі.

Калі сябар развітаўся, я зайшоў у інтэрнэт і прачытаў некалькі артыкулаў пра божых каровак. Даведаўся, што чым больш на іх чорных крапінак, тым больш карысці яны прыносяць. Адна крапінка дапамагае ў любым новым пачынанні. Дзве крапінкі — сімвал унутранай і знешняй гармоніі. Тры — чалавек навучыцца быць разважлівым і зможа прымаць верныя рашэнні. Чатыры — забяспечана абарона ад рабаўнікоў і бандытаў.

Калі гэтая інфармацыя мяне не вельмі цікавіла, то наступная — наадварот. Пяць крапінак павышаюць здольнасць да стваральнай працы. Шэсць — дапамагаюць у навучанні. І, нарэшце, сем — гарантуюць поспех ва ўсіх справах і шчасце.

Дзеля цікавасці я стаў разглядаць божую кароўку праз шкло слоіка. У яе было пяць крапінак. А гэта значыла, што насякомае павінна было дапамагчы мне ў стваральнай працы. Я падумаў: «Можа быць, сябар спецыяльна абраў для мяне такі сімвал?»

Адарваўшыся ад слоіка, я зноў сеў за камп'ютар, прачытаў, чым карміць божую кароўку. Аказалася, яна любіць тлю. На форумах некаторыя раілі даваць мёд і салодкі чай. Я паглядзеў яшчэ раз на слоік. Кузурка сядзела нерухома. Напэўна, спала.

Набліжаўся вечар. Я сеў за сваю нятленную працу. Як ні дзіўна, пісалася лёгка. «Можа, і праўда божая кароўка дапамагае?» — падумаў я. Няўзнак захацелася пакінуць яе ў сябе. Але ў свядомасці раптам успыло пытанне: «А як жа імкненне дамагацца ўсяго самому?»

Пакінуць божую кароўку ў сябе — значыць абзавесціся талісманам. Тады, мы з таварышам будзем у роўных умовах: у яго — рыбкі, у мяне — божая кароўка. І не змагу больш папракнуць яго ў бяздзейнасці. Не, так зрабіць я не мог.

Я выйшаў на вуліцу з намерам выпусціць кузурку. Свяцілі ліхтары. Калі б не цёмнае неба над галавой, здавалася, ноч была працягам дня. Я прыйшоў на луг, які месціўся каля дома. Адкрыў слоічак, акуратна дастаў з яго божую кароўку. Пасадзіў яе на травінку. Пэўны час кузурка сядзела нерухома. Затым трошкі стала варушыцца. Раптам рэзка раскрыла свае крыльцы і паляцела. Праз некалькі секундаў я страціў яе з віду.

Вярнуўшыся ў кватэру, працягнуў працу над рукапісам. Спачатку мне падумалася, што без божай кароўкі мой імпэт скончыцца. Але не. Пісалася лёгка. Я быў на фінішнай прамой. Дакладна ўяўляў, чым усё павінна завяршыцца. Мае героі падказвалі мне гэта.

***

Праз дзень я скончыў апавяданне. Быў вечар. Я падышоў да акна. Па вуліцы ў прыцемках хадзілі людзі.

Я ўспомніў пра Маланню і падумаў, што мы абое персанажы ў гэтым рамане свету. Адкрытым заставалася толькі пытанне якія. Адказ — з двух варыянтаў: галоўныя або другарадныя.

Хутчэй за ўсё, былі другараднымі. Мы жылі ў свеце, і свет пераважаў над намі. Але можна было зрабіць так, каб увесь свет стаў для нас няважным. Магчыма, апошнім разам, калі мы сустракаліся, знаёмая менавіта гэта і хацела сказаць.

Я набраў нумар тэлефона.

— Алё, — пачуўся голас Маланні.

— Добры вечар, — сказаў я.

— Добры вечар, — адказала Маланння. Яна, адукаваная дзяўчына, ведала, што няправільна адказваць на прывітанне ў скарочанай форме.

— Здаецца, я магу табе дапамагчы, — пачаў я.

— У чым? — здзівілася Маланння.

— Я ведаю, як дазнацца, кахае цябе твой абраннік ці не.

— І як? — ажывілася дзяўчына.

— Гэта не тэлефонная размова.

— Я зразумела.

Мы дамовіліся аб сустрэчы.

Маланння яшчэ не ведала, што там, дзе мы сустрэнемся, ёсць добрая кавярня, нічым не горшая за рэстаран. І што менавіта я ёй скажу.

Перад выхадам з кватэры я патэлефанаваў сябру.

— Як рыбкі? — запытаўся я.

— Добра. Адпачываюць, — адказаў ён.

— Скажы, яны табе ўжо ў чым-небудзь дапамаглі?

— Я адчуваю ўнутраную гармонію. А ўсё астатняе прыйдзе потым. Рыбкі яшчэ вельмі малыя, каб прыносіць мне большую карысць.

— Зразумела.

— Ты штосьці хацеў? — запытаўся сябар.

— Не. Толькі гэта. Дабранач.

— Дабранач, — адказаў сябар.

Я выйшаў на вуліцу. Паўсюль свяцілі ліхтары. Як быццам гарошынкі святла, яны асвятлялі мой шлях. Я зайшоў у найбліжэйшую начную краму і набыў кветкі. Першы раз за ўвесь час я вырашыў падарыць Маланні кветкі.

Я не веру ў залатых рыбак. І да сваёй мэты павінен быў дайсці сам.

# Класік. Волат. Чалавек

Ці ведаеце вы, што народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль пачынаў як паэт? Ці можаце ўявіць, як уважліва ён ставіўся да распрацоўкі сюжэтаў сваіх празаічных твораў?.. Ці разумееце, якія мары меў?..

Пра гэта ішла гаворка на вечарыне, прысвечанай стагоддзю Янкі Брыля ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры», дзе сабраліся сябры, калегі, даследчыкі і аматары яго творчасці. На запрашэнне газеты «Літаратура і мастацтва», якая разам з Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва арганізавала вечарыну, адгукнуліся яго дзеці: дочкі Наталля, Галіна і сын Андрэй.



Фота Надзеі Бужан.

Дзеці Янкі Брыля.

Нават іх увагу прыцягнулі архіўныя дакументы, сярод якіх партрэт жонкі Ніны Міхайлаўны, намаляваны братам пісьменніка і дасланы яму ў нямецкі палон. Лісты, напісаныя пад лінеечку дзецьмі, якія засумавалі без таты: вандроўкі Брыля адлюстраваны ў фотаздымках, і іншыя дакументы праўстаўлены на выставцы, што працягвае працаваць у памяшканні Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Тут захоўваецца даволі важкі фонд пісьменніка: каля 12 750 дакументаў, засведчыў кандыдат філалагічных навук Віктар Жыбуль. Ёсць і віншаванні да юбілейных дат, у тым ліку ад супрацоўнікаў «ЛіМа» — Янка Брыль быў актыўным аўтарам газеты.

— Іван Антонавіч — волат нашай літаратуры, пісьменнік-інтэлектуал, сумленне нацыі, — адзначыў дырэктар Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Іван Саверчанка. — Ён адлюстраваў шмат якія трагічныя аспекты ХХ стагоддзя. Цяпер задача нашага інстытута — падрыхтоўка збору твораў Янкі Брыля, згодна з дзяржаўнай праграмай.

Першы том збору павінен выйсці на працягу года. Дадаткам да яго можа быць збор успамінаў пра пісьменніка, якімі ёсць каму падзяліцца:

— Калі я першы раз убачыў Брыля на семінары маладых літаратараў, гэта быў класік, якога вывучаюць у школе. І гэты вялікі чалавек і пісьменнік правёў з намі два сонечныя дні ў Полацку і Наваполацку. Ён прысутнічаў на пасяджэнні нашага літаб'яднання, разглядаў нашы творы. Адзін з самых дарагіх здымкаў у маім жыцці, дзе побач з намі, маладымі, сядзіць Янка Брыль, — прызнаўся пісьменнік Навум Гальпяровіч.

— Янка Брыль чакаў Беларусь, пра якую марыў Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, — адзначыў паэт Віктар Шніп. — Нам трэба зрабіць тое, на што яны спадзяваліся.

**Марыя АСІПЕНКА**

# ПЛЁН АСАБІСТЫХ КАНТАКТАЎ:

## супрацоўніцтва Янкі Брыля з перакладчыцай Ганнай Сабецкай



Янка Брыль і Ганна Сабецкая. Іслач, 1987 г.

**Адной з першых замежных моў, на якую пачалі перакладаць творы Янкі Брыля, была польская — мова краіны, дзе традыцыйны глыбокі патрыятызм, беражлівае і дбайнае стаўленне да ўсіх духоўных вартасцей уласнага народа заўсёды спалучаліся з жывой цікавасцю да лепшых здабыткаў сусветнай літаратуры. Польская літаратура, якая на працягу сваёй гісторыі была не толькі духоўнай скарбніцай народа, але і дзейсным сродкам барацьбы за існаванне нацыі, карысталася ў гэтай барацьбе як арыгінальнымі творамі, так і ўзорамі перакладной літаратуры.**

Калі гаварыць пра ролю мастацкага перакладу ў працэсе беларуска-польскага літаратурнага ўзаемадзеяння, варта падкрэсліць прынцыповыя асаблівасці гэтага працэсу. Не толькі агульны змест, але і мастацкія асаблівасці твораў паспяхова пераадольваюць моўныя граніцы. Таму пераклад з беларускай на польскую і наадварот функцыянальна адрозніваецца ад перакладу з далёкародных і няродных моў. Там велізарную ролю адыгрывае сам факт перадачы зместу. Нават просты пераказ твораў для нас важны.

У беларуска-польскіх узаемных перакладах чыста інфарматыўны момант адыгрывае не такую вялікую ролю, затое павялічваецца значэнне перадачы найтанчэйшых нюансаў стылю, падтэксту, паэтыкі. Творчы ўзаемаўплыў праз пераклад у дадзеным выпадку ўзмацняецца дзякуючы тыпалагічнай блізкасці літаратур.

Колькасць паўнацэнных перакладаў твораў Янкі Брыля павялічылася і дзякуючы перакладчыцкай дзейнасці Ганны Сабецкай. Брыль і Сабецкая цягам ўсяго жыцця даволі актыўна ліставаліся, сустракаліся некалькі разоў у Польшчы і Беларусі.

Ганна Сабецкая, польская журналістка, празаік і перакладчыца беларускай літаратуры, нарадзілася 2 красавіка 1948 года ў невялікай вёсцы Мосціха, што ў Падляскім ваяводстве, недалёка ад Беларусі. У 1972 годзе скончыла Варшаўскі ўніверсітэт і пачала працаваць на радыё ў Зялёнай Гуры, а потым на гданьскім радыё. Ладзіла размовы з пісьменнікамі польскага Узбярэжжа. Яшчэ адной важнай справай у творчасці журналісткі было правядзенне размоў з этнічнымі меншасцямі, якія пражывалі на тэрыторыі Гданьска. Вынікам такой працы стала кніга, выдадзеная ў 2014 годзе, «*Kalejdoskop. Spotkania z mniejszościami narodowymi*» (асобна выйшлі ў друк успаміны дзвюх беларусак, якія былі перакладзены на польскую мову Ганнай Сабецкай «*Od Budsławia do GUŁagu*» (2002).

На пачатку 1970-х гадоў Ганну Сабецкую зацікавіла творчасць беларускага пісьменніка Янкі Брыля, лёс якога звязаны з Гданьскам. У 1972 годзе яна прыехала ў Мінск, і тут адбылася лёсавызначальная сустрэча з Янкам Брылём. «Пры дапамозе знаёмага русіцыста, які ў той час знаходзіўся на стажыроўцы, у мяне атрымалася дамовіцца на сустрэчу з пісьменнікам. Для мяне гэта было важнае здарэнне». На момант той сустрэчы Г. Сабецкая пераклала ўжо некалькі мініяцюр Я. Брыля і ўрыўкі з «Дзённіка польскага» («*Dziennik polski*»), якія праз некаторы час з'явіліся на старонках перыядычнага выдання «*Nadodrze*». Часопіс гэты друкаваўся ў Зялёнай Гуры, дзе ў той час жыла журналістка. Працуючы на радыё, Ганна Сабецкая зрабіла пераклад некалькіх лірычных мініяцюр Янкі Брыля, якія потым прагучалі на хвалях мясцовага радыё.

У Польшчы Янка Брыль і Ганна Сабецкая сустракаліся двойчы. Першы раз — у Варшаве, калі беларускі пісьменнік прыехаў на ўручэнне ўзнагароды Уладзіміра Петшака. Другі раз сустрэча адбылася падчас Дзён савецкай літаратуры ў 1979 годзе, якія ладзіліся ў Зялёнай Гуры. Янка Брыль уваходзіў у склад афіцыйнай дэлегацыі пісьменнікаў з Беларусі. Пісьменнікі ўдзельнічалі ў навуковых семінарах, сустракаліся з польскімі чытачамі, а Ганна Сабецкая суправаджала групу, у складзе якой і быў Янка Брыль. З успамінаў Г. Сабецкай: «Брыль быў сардэчна прыняты чытачамі і старэйшымі, і моладдзю, таму што быў цудоўным аратарам. Добра гаварыў па-польску (перад Другой сусветнай вайной хадзіў у польскую школу), таму не было бар'еру, які заўсёды атрымліваецца, калі аповед трэба тлумачыць… Акрамя таго — яго пачуццё гумару, якое разбаўляла самыя складаныя сітуацыі. Адказваў на пытанні выспапальна, не прамінаючы ніякіх тэм».

Асабліва Ганне Сабецкай запомнілася цікавасць Янкі Брыля да дэталяў. Ён за ўсім назіраў, параўноўваў з роднай вёскай Загор'е і ўсё потым занатоўваў. «Ніколі не звяртаўся да кніг, не чытае, толькі глядзіць у акно: на пейзаж, на будынкі, на людзей — як выглядаюць, як яны апранутыя, чым займаюцца і г. д.»

У адзін з вечароў Янка Брыль стаў ганаровым госцем на мерапрыемстве, якое ў сябе дома ладзіла Ганна Сабецкая. Я. Брыль запомніўся ўсім сваёй эрудыраванасцю, уменнем падтрымаць размову на любую тэму, не толькі літаратурную. «Ведаў не толькі шмат песен — беларускіх, зразумела, таксама рускіх, але і польскіх. І вельмі ахвотна далучаўся да застольнага спеву, нават падказваючы некаторыя песні». Ад гэтага візіту ў Польшчу ў пісьменніка таксама засталіся вельмі добрыя ўспаміны, пра якія ён напісаў у лісце ад 26.07.1979 г. да Ганны Сабецкай: «Я, наадварот, з цёплым пачуццём успамінаю вечар, праведзены ў Вашым доме, у такой харошай кампаніі, — і дарэмна Вы адчуваеце *"niedosyt"* з гэтай прычыны. <…> Наогул, я вельмі прыемна ўспамінаю Зялёную Гуру, і Любск, і нашы сустрэчы, і шчыра дзякую Вам за ўсё, і прашу перадаць маё прывітанне мужу, з якім я быў рады пазнаёміцца».

Наступная сустрэча пісьменнікаў адбылася ўжо на тэрыторыі Беларусі, калі Ганна Сабецкая брала ўдзел у Першым міжнародным семінары перакладчыкаў беларускай літаратуры ў красавіку 1987 года, што праходзіў у Доме творчасці пісьменнікаў «Іслач», каля Ракава. Застаўся на памяць сумесны здымак Янкі Брыля з Ганнай Сабецкай, зроблены фотакарэспандэнтам газеты «ЛіМ» Уладзімірам Круком на адкрыцці семінара.

Падчас семінара ўдзельнікі шмат падарожнічалі. «Засталіся ўспаміны не толькі з вельмі цікавых размоў падчас рабочых сустрэч, семінараў, але і з экскурсій па цікавых мясцінах Беларусі <…> Засталося таксама некалькі здымкаў — і вельмі добра, што засталіся, зараз аднаўляюць успаміны». У семінары таксама ўдзельнічалі польскія пісьменнікі Чэслаў Сенюх, Фларыян Няўважны, Марыя Путрамант.

У 1990-я гг. Ганна Сабецкая, прыязджаючы ў Мінск, заўсёды сустракалася з Янкам Брылём. Бывала ў Мінску журналістка даволі часта, бо яе цікавіла культурнае жыццё Беларусі, яна была рэгулярным удзельнікам з'ездаў беларусістаў, з'ездаў беларусаў свету. Вынікам такога творчага сяброўства стала вялікая колькасць перакладаў, якую зрабіла Ганна Сабецкая. У 1985 годзе выйшла у друк асобным выданнем аповесць Я. Брыля «*Świt ujrzany z daleka*» («Золак, убачаны здалёк») у перакладзе Г. Сабецкай. Янка Брыль высока ацэньваў якасць перакладу, праўда, унёс у яго і некаторыя праўкі. У лісце ад 06.09.1982 г. Ён пісаў да перакладчыцы: «Дзве раніцы, на свежую галаву, чытаў свой "Золак", з такой увагай, перакладзены Вамі. Дзякую шчыра! І гэта, пані Ганна, не камплімент — пераклад сапраўды добры». Аднак, як адзначае перакладчыца, не ўсе творы, якія былі перакладзены, удалося надрукаваць. Быў намер таксама пераклаcці раман «Птушкі і гнёзды», які і на сёння не перакладзены на польскую мову, але, па словах Г. Сабецкай, яна «не была асобай, якая мае сувязі ў выдавецкім атачэнні. І нават рэкамендацыі аўтара не хапала, а Янка Брыль хацеў, каб я пераклала для аднаго з выдавецтваў зборнік яго апавяданняў».

Роля асабістых кантактаў у развіцці літаратурных узаемасувязей вельмі вялікая. Так, Ганна Сабецкая, якая была звязана з Янкам Брылём не толькі творчымі інтарэсамі, але і ўзаемнай глыбокай сімпатыяй, сяброўствам, падкрэслівае, што знаёмства з беларускім пісьменнікам было вельмі важным пры выбары твораў для перакладаў. Нацыянальная своеасаблівасць беларускай і польскай літаратур з'яўляецца асновай іх узбагачэння, а блізкасць моў — дадатковым стымулам. Мастацкі пераклад як адзін з найважнейшых сродкаў збліжэння літаратур у дадзеным выпадку істотна дапаўняецца непасрэдным узаемаразуменнем беларусаў і палякаў.

**Вікторыя АНДРЫЕВІЧ**

Працяг. Пачатак тэмы ў № 31.

# ШТО Ў ЖЫЦЦІ ТВАІМ, РОД?

Хораша і светла на душы. Думаю, не толькі ў мяне аднаго. Такое адчуванне перажылі ўсе, хто пазнаёміўся з сёмым томам Анатоля Статкевіча-Чабаганава «Я — сын Ваш» з ягонай серыі «Летапіс беларускай шляхты». Ён прысвечаны Корсакам гербаў «Корсак» і «Ліс», а таксама Геталтам, Тышкевічам, Гарабурдам і Гарнастаям з роду Каленікавічаў-Мішкавічаў і Рэўтам герба «Газдава». Як і іншыя кнігі Анатоля Васілевіча, том гэты чаканы для тых, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі, спасцігаючы яе праз жыццяпіс шляхецкіх родаў.

Аднак сёмы том прынёс і прыемную нечаканасць. Дарэчы, двайную. Найперш таму, што кніга, выпушчаная рэдакцыяй часопіса «Роднае слова», не выпадкова з'явілася напярэдадні сёлетняга Дня беларускага пісьменства, цэнтрам правядзення якога стаў старажытны Полацк. Лёсы ж шмат каго з тых, пра каго расказваецца, звязаны з гэтым рэгіёнам Беларусі. Але ёсць і іншая нагода парадавацца. А. Статкевіч-Чабаганаў паўстае перад намі ў новай іпастасі, заявіўшы аб сабе, як аб руплівым даследчыку.

Вядома, у пэўнай ступені ў такой ролі ён выступаў і ў сваіх ранейшых кнігах, заглыбляючыся ў нацыянальную даўніну. Але ў пяці папярэдніх тамах, хоць і багатых на дакументальныя звесткі, архіўныя знаходкі выкарыстоўваюцца толькі для тлумачэння асобных мясцін, выконваючы вялікую ролю, з'яўляюцца толькі падмогай аўтару ў вывучэнні гісторыі родаў. Гэтым жа разам архіўна-дакументальнай частцы адведзена першаступенная роля.

Анатоль Васілевіч, па сутнасці, папрацаваў ці не за цэлы навукова-даследчы інстытут. У такой ацэнцы ніякага перабольшання. Гэта відаць па тым ужо, што ў томе ажно больш за дзве тысячы спасылак на першакрыніцы: неабходна было перавярнуць горы матэрыялу, каб, адсеяўшы другаснае, знайсці найбольш істотнае і важнае. А. Статкевіч-Чабаганаў пайшоў тым шляхам, якім ідуць вопытныя даследчыкі. Інтуітыўна адчуваў, што і як трэба рабіць.

Адшукаўшы пэўны факт, адштурхнуўшыся ад яго, пераходзіў да іншых фактаў, пранікаючы ўсё глыбей у сэнс, сутнасць той праблемы, таго пытання, у вырашэнні якога быў зацікаўлены. Усведамленне ж таго, што гэта мусіць быць менавіта так, а не інакш, штурхала яго на далейшы актыўны, дзейсны пошук. Калі-нікалі было дастаткова толькі пэўнай згадкі, каб яна выклікала тое, што можна назваць калі няхай пакуль і не адкрыццём яшчэ, дык набліжэннем да яго.

Падобным шляхам А. Статкевіч-Чабаганаў ідзе ад кнігі да кнігі. Але гэтым разам яго даследчыцкія памкненні іншага кшталту. Пад іх падведзена не проста навуковая аснова, а такая аснова, што дазволіла яшчэ больш паспяхова працаваць на ніве нацыянальнага адраджэння, абжываючы той пласт яго, што называецца радзімазнаўствам. Калі ж канкрэтызаваць тое, што робіць ён, дык гэта і родазнаўства.

Праз гісторыю шляхецкіх родаў Анатоль Васілевіч адкрывае гісторыю Беларусі, лішні раз пераконваючы ў правільнасці таго, пра што некалі дакладна сказаў Кузьма Чорны: кожны чалавек — гэта цэлы свет. Аднак трэба ўсё ж быць справядлівым, гэты свет куды больш аб'ёмісты, калі носьбіт яго — АСОБА. Тыя ж, каго адкрывае А. Статкевіч-Чабаганаў, — менавіта асобы. Незалежна ад таго, якія пасады яны займалі ў жыцці, чаго дасягнулі.

У гэтым асабліва пераконвае сёмы том «Летапісу…» з яго моцнай даследчыцкай асновай. На карысць таго, што А. Статкевіч-Чабаганаў упэўнена адчувае сябе ў новай ролі, сведчыць і тое, з якой вялікай павагай ставіцца ён да першакрыніц.



Фота Кастуся Дробава.

Анатоль Статкевіч-Чабаганаў падчас прэзентацыі адной з кніг серыі "Я — сын Ваш".

Як правіла, дакладна прытрымліваецца арыгінала, не пераўвасабляючы тэкст па-сучаснаму. Гэта дазваляе чытачу яшчэ лепш спасцігнуць сам дух эпохі, якая ўзнаўляецца.

Важны і такі момант. Заглыбляючыся ў гісторыю тых родаў, што сталі героямі яго новай кнігі, Анатоль Васілевіч знайшоў арыгінальны падыход. Паколькі нашчадак родаў Корсакаў і Каленікавічаў Баркулаб Корсак быў ініцыятарам стварэння знакамітага Баркулабаўскага летапісу, то А. Статкевіч-Чабаганаў вырашыў даследаваць «абагульненыя біяграфічныя звесткі і родныя сувязі асобаў», якія згадваюцца ў гэтым выдатным помніку старажытнага беларускага пісьменства канца XVI — пачатку XVII стагоддзя.

Некаторыя з іх, а таксама не ў меншай ступені іхнія нашчадкі, лёс свой звязалі з Полаччынай, што дэталёва і прасочваецца ў даследаванні. Аднак пераканаўча паказана і іншая роднаснасць, бадай, не менш важная. Многія з тых, пра каго расказвае А. Статкевіч-Чабаганаў, — яго сваякі, няхай і далёкія. Відавочна сваяцтва і паміж прадстаўнікамі саміх родаў, пра якія гаворыцца ў томе. Сапраўды ўжо: мы, зямляне, у чымсьці з адной калыскі.

Нягледзячы на тое, што ў кнізе нямала таго, што характэрна для навукова-даследчага выдання, яна чытаецца з вялікай цікавасцю. Прыведзеныя шматлікія факты не абцяжарваюць успрыманне матэрыялу. Наадварот, выклікаюць жаданне яшчэ больш даведацца пра таго ці іншага прадстаўніка пэўнага роду. Тут на дапамогу прыходзіць імянны паказальнік, дзякуючы якому лёгка выйсці на таго, хто трапіў у поле твайго зроку. Дарэчы месца і геаграфічны паказальнік. Гэта ўжо магчымасць лепш зарыентавацца ў тым, хто дзе жыў ці жыве. Аўтар жа даследавання не абышоў увагай і сённяшніх нашчадкаў старажытных шляхецкіх родаў. Шмат каго з іх можна ўбачыць і візуальна, бо ў кнізе прадстаўлены і багатыя ілюстрацыйны матэрыял. Датычыцца ён і тых, хто жыў некалі. Прыведзены і адбіткі пэўных дакументаў.

**Тамаш ВОЙСА**

# Чараўніцтва гісторый



Летнім ліпеньскім вечарам ва ўтульным дворыку Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа адбылася прэзентацыя новай кнігі Ігара Палякова — аднадзённай драмы «Містычковая гісторыя» *(кніга так і называецца)*.

Ігар Палякоў — пісьменнік, рэжысёр, відэамейкер. Нарадзіўся і вырас у Гомелі, цяпер жыве ў Мінску. У 2009 годзе ў адной з намінацый беларускага альтэрнатыўнага кінафоруму «Кінаварка» яго кароткаметражны фільм «Танга кастрычніка...» атрымаў прызавое месца. У 2012 годзе І. Палякоў выпусціў першы поўнаметражны фільм «Сакрэт майго Кухара», а таксама даслаў урывак сваёй аповесці на літаратурны конкурс для аўтараў-пачаткоўцаў «Першая глава», арганізаваны выдавецтвам «Рэгістр», і перамог. Яго кніга «Прасторы» была выдадзена і прэзентавана ў 2014 годзе. Аркамя таго, Ігар Палякоў вёў калонку ў «ЛіМе» ў 2014 — 2015 гг., публікаваў свае аповесці і эсэ ў розных беларускіх выданнях.

І вось прэзентацыя новай, другой па ліку кнігі. З раніцы ў вядучай Тамары Лісіцкай прапаў голас, але да вечара ён магічным чынам з'явіўся. Абаяльная жанчына і сябар аўтара вырашыла пазнаёміць наведнікаў з галоўнымі героямі кнігі. Тамара Лісіцкая была прафесарам філалогіі, галоўны рэдактар выдавецтва «Рэгістр» Таццяна Фалалеева выконвала ролю захопленай дамы, навукоўца, краязнаўцы. Нават дырэктар выдавецтва Фаціма Баранава пераўвасобілася ў дырэктара крамы ніжняй бялізны. Завіталі на сустрэчу ў цікавых амплуа бабулі і генерала пераможцы конкурсу «Першая глава» розных гадоў — Міхаіл Лучыцкі і Валерыя Фамінова. Кожны павіншаваў Ігара і паспрабаваў заінтрыгаваць будучых чытачоў. Распавёў пра кнігу і аўтар:

— У «Містычковай гісторыі» хацелася адысці ад ранейшага стылю і манеры пісьма — пахуліганіць, звярнуцца да гісторый і разважанняў, якія цікавілі ў апошнія гады. У гэтай кнізе можна вярнуцца да сябе, каб не страціць з цягам часу каштоўных і важных якасцей. Таксама ў творы шмат музыкі. Мне хацелася, каб кніга была жывой, як кіно ці спектакль. Спадзяюся, у чытачоў узнімецца настрой, і яны задумаюцца над рэчаіснасцю.

Гэта быў джазавы вечар з расслабляльнай музыкай, прыемнымі людзьмі і смачнымі пачастункамі. Арганізоўвалі спектакль, спрабавалі зрабіць з гледачамі джазавы аркестр і нават увасобілі ў жыццё галоўную страву кнігі — *Fegato alla veneziana!* Насамрэч, аўтар асабіста спрабаваў шэсць ці сем рэцэптаў прыгатавання печані, пакуль не знайшоў непаўторны смак і пах, апісаны ў кнізе.

Калі скончылася афіцыйная частка, чытачы адгадвалі загадкі (напрыклад, чаму на яблыні ў музеі «расце» чарэшня), рабілі фотаздымкі і бралі аўтографы.

Нарэшце разгортваем кнігу, і гісторыя пачынаецца...

У невялікім горадзе пад назвай БК — звычайнае штодзённае жыццё. Сваркі паміж суседзямі, бабулі пад акном, падлеткі, якія збягаюць на прагулкі. Увагу прыцягваюць галоўныя дзеючыя асобы — Раман Дольнік і Марына Браверман. Іх чарговы скандал жыхары сузіраюць з асаблівай цікаўнасцю, як нейкую забаўку. Але ў гэты момант ва ўтульным еўрапейскім дворыку са старой вішняй, якая падзяліла яго тэрыторыю на дзве часткі, здараецца нешта неверагоднае. Гэта здарэнне дапамагае героям зірнуць на сябе з іншага боку, палепшыць адносіны з блізкімі, праналізаваць (не) патрэбныя прынцыпы, пераасэнсаваць свае погляды і не згубіць сэнс жыцця.

«Містычковая гісторыя» — кніга, якая заваблівае. Тут шмат яскравых і эфектных персанажаў: прафесар філалогіі — непараўнальная Марына Отаўна, трубач, слесар і фізік Раман Аркадзьевіч, лепшы аналітык дамініканскай выведкі Локры, беларускамоўная журналістка Алеся Адамаўна... У кожнага героя — свая гісторыя, і калі вас не зацікавіла адна, то дакладна заінтрыгуе іншая!

Героі нібы праходзяць школу выжывання: сустракаць двайнікоў і імкнуцца разумець іх з вяршыняў свайго сталага ўзросту. Марына адчувае, што камандзірскі дух сапсаваў яе адносіны з мужам (з якім яна дагэтуль не развялася). Раман прызнае галоўныя памылкі ў жыцці. Але ж і шчаслівага тут шмат: напрыклад, падлеткі робяць незвычайныя адкрыцці, калі займаюцца любімымі справамі.

Здольнасць аўтара заблытаць лёсы персанажаў захапляе з першай старонкі. Карціна дапаўняецца дзіўнымі сінкопамі і нечаканымі паваротамі, тым больш што сфера дзейнасці персанажаў — гэта і гісторыя, і літаратура, і музыка, і журналістыка, нават ваенныя дзеянні.

«Аднадзённая драма ў 70-ці сігналах» — так пазначана «Містычковая гісторыя». Чаму ў сігналах? Радыё будзе выконваць у кнізе не апошнюю ролю. Але гэта не ўся своеасаблівасць тэксту. Ёсць і шыфры (напрыклад, можна адгадаць назву выдавецтва), імправізаваная праграмка (жыццё — тэатр, як сцвярджае аўтар). «Містычковая гісторыя» перакрываецца назвай «Мястэчкавая гісторыя» згодна з задумкай дызайну вокладкі. Ігар Львовіч апісаў прыгожы і ўтульны горад, а назва БК — па першай і апошняй літарах. Гэта маглі быць Бярозаўка, Бабруйск, Белаазёрск, але яны не каля Дняпра (як па сюжэце). Загадкай застаецца назва горада. Мабыць, нехта з чытачоў пастрабуе яе адгадаць. Напрыклад, пашукаць гістарычныя назвы гарадоў ля Дняпра. Галоўная падзея — таксама загадка: дзівоснае здарэнне адбылося з-за неверагоднага месца або матэматычнага разліку? Містыкі і фантазіі ці дакладнасці лічбаў?..

Твор закранае праблему ўзаемаадносін з блізкімі людзьмі. Ці варта хавацца за маскай іроніі, каб пазбегнуць шчырасці? Ці проста прызнаваць свае памылкі, слухаць і чуць блізкіх людзей і выбачаць ім? Ці трэба вучыцца абмяркоўваць свае пачуцці? Чытаць такую кнігу карысна ў любым узросце...

**Селіна ЧАРНОВА,**
**фота аўтара**

◆ Таццяна ФАЛАЛЕЕВА: «Кожны раз, калі мы чыталі кнігу, знаходзілі новую гісторыю. Тут няма простай фабулы — толькі шмат сюжэтаў, што вельмі характэрна для Ігара. Успомніць тыя ж "Прасторы"...»

◆ Фаціма БАРАНАВА: «У творы шмат пластоў. Кожны знойдзе нешта блізкае для сябе. Мяне кніга прымусіла азірнуцца, паглядзець па-іншаму на жыццё. Раптам і я змагу нешта змяніць і не баяцца ісці далей».

◆ Міхаіл ЛУЧЫЦКІ: «Кніга вельмі здзівіла. У мяне было сваё ўяўленне пра аўтара і яго стыль — вельмі інтэлігентны, рамантычны, індывідуальны. «Містычковую гісторыю» нібы напісаў іншы чалавек. Усё гэтак жа інтэлектуальна, інтэлігентна, але праяўляецца дзесьці саркастычны, іранічны аўтар, здольны пасмяяцца з людзей, з месца, дзе мы жывём. Кнігу варта чытаць: яна ўся — загадка».

# Плод разумення

## прадэманстравалі творцы розных краін на выстаўцы «*Apple* смак»

Напрыканцы ліпеня ў Палацы мастацтваў быў прадстаўлены Міжнародны выставачны праект «Apple смак», экспазіцыя якога паказвае, як мастакі з розных краін свету натхняюцца адным, на першы погляд, звычайным аб'ектам.

Удалае сумяшчэнне жывапісу, графікі, скульптуры і арт-інсталяцый задавала канцэпцыя. Арганізатары прапанавалі ўдзельнікам раскрыць яблык як мастацкі аб'ект з пункту гледжання філасофіі. Сімвал жыццёвай моцы — яблык — асэнсоўваецца з біблейскіх часоў. Экспазіцыя прымеркавана да Яблычнага Спаса — свята, якое адзначаецца праваслаўнымі хрысціянамі ў сярэдзіне жніўня. У праекце ўзялі ўдзел мастакі з Беларусі, Украіны, Польшчы, Расіі, Літвы, Эстоніі, Латвіі, Балгарыі, Славакіі, Італіі, Азербайджана і нават Ірландыі.

— Год таму Беларускі саюз мастакоў планаваў арганізаваць выстаўку «3:4» з падобнай канцэпцыяй, але позна зрэагавалі мастакі, і я вырашыў крыху пачакаць і пашырыць праект, зрабіць яго міжнародным, — расказаў першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Глеб Отчык. — Вельмі цікава, калі творцы розных пакаленняў і краін увасабляюць адну ідэю, прычым не абстрактную, а канкрэтную. Гэтым праектам мы праклалі мастацкі мост паміж рознымі краінамі. У наступным годзе плануем гэтую практыку працягваць, але для натхнення мастакоў будзем шукаць іншы аб'ект, пашырым фармат. Ужо ёсць дамоўленасць, што ў 2018 годзе ў праекце возьмуць удзел мастакі з Аўстраліі. Вельмі прыемна, што сёлета ўдзельнічае Ірландыя. Ірландскі саюз мастакоў складаецца з дваццаці сямі чалавек, у той час, як у Беларускі саюз мастакоў уваходзіць тысяча сто чалавек. Шчыра кажучы, напачатку не думалі, што праект выкліча такую цікавасць. А ў выніку атрымалася, што ён практычна набыў фармат біенале.

Першае пытанне: чаму менавіта яблык? Калі ўзгадаць гісторыю сусветнага мастацтва, то яблыкі ёсць на палотнах самых знакамітых майстроў планеты. Так, напрыклад, Поль Сезан любіў пісаць нацюрморты з яблыкам, Поль Гаген выкарыстоўваў яблыкі для адлюстравання цэласнасці свету, а Ілья Рэпін бачыў у яблыках загадку. Так і нашы мастакі паспрабавалі адлюстраваць яблык не толькі з боку побытавага альбо прыроднага, але і раскрыць яго сутнасць у кантэксце гістарычным, філасофскім, нават казачным.

— Паколькі праект мы арганізавалі ў перыяд уборачнай кампаніі, яблык як мастацкі аб'ект паказаўся нам актуальным, — адзначыў Глеб Отчык. — Сёлета ўраджай яблыкаў у Беларусі сціплы, а наша выстаўка паказвала багацце. Акрамя таго, яблык з'яўляецца сімвалам сонца, урадлівасці, любові, сімвалам, які аб'ядноўвае ўсю чалавечую культуру: яблыкі вырошчваюць у розных кутках свету.



*Аляксандр Дзяміdaў «Рай», 2009 г.*

Выстаўка атрымалася разнастайнай. Большасць беларускіх экспанатаў прадстаўляліся ўпершыню. Дарэчы, гэта адна з праблем экспазіцый, якія арганізоўвае Беларускі саюз мастакоў: часта работы ў іх паўтараюцца, вока прывыкае, а хочацца навізны, нечаканых ідэй і тэм для развагі. Так, напрыклад, арт-аб'екты Таццяны Гомзы — выбуховыя снарады, якія прадстаўлены ў форме яблыкаў. Аўтар раскрыла сур'ёзныя тэмы — разбурэнне маральных устояў, дэградацыю грамадства, але не вінаваціць нікога, а спрабуе звярнуць увагу на важныя аспекты існавання чалавека ў сённяшніх рэаліях. А ў творах Аляксандра Дзямідава яблык стаў сімвалам раю, але без адсылкі да біблейскай гісторыі. На палотнах мастака адлюстраваны яблыні, што абуджаюць успаміны аб дарагім дзяцінстве, якое прайшло ў вёсцы ў бабулі.

— Каштоўнасць праекта ў тым, што ў ім прадстаўлены работы як маладых мастакоў, так і творцаў, якіх ужо няма з намі, напрыклад, карціны Уладзіміра Кожуха або Гаўрылы Вашчанкі, — падкрэсліў Глеб Отчык. — Гэта імёны людзей, якія павінны застацца ў гісторыі беларускай культуры, іх творчасць павінна жыць.

Керамічныя вырабы Наталлі Яўгелеўскай накіраваны на раскрыццё традыцыйных тэм. Так, яе яблыкі на талерцы нагадвалі пра восеньскія цёплыя дні, пра залацісты колер гэтага перыяду. Сам яблык для аўтара — гэта і ёсць восень, у якой захоўваецца прыгажосць і пяшчота апошніх цёплых дзён. Малады аўтар Васіль Зянько таксама праз яблыкі бачыць восень. Праўда, мастак адышоў ад рэальнасці і паглыбіў гледача ў свет абстракцыі.

Ганна Сілівончык яблыкамі адлюстравала ўнутраны свет чалавека ў прамым сэнсе. Светлыя яблыкі — дабрыня і ўнутраная гармонія, цёмныя — эгаізм і дрэнныя ўчынкі. У яе творах няма ідэалізацыі, таму цёмнае і светлае яна сумясціла ў адным сюжэце, толькі важна заўважыць, як размеркаваны адценні (цёмнае ў сэрцы чалавека сведчыць пра яго характар). Яшчэ мастачка ў яблыках убачыла каханне: цэлы яблык сведчыць пра сямейнае шчасце і дабрабыт, у той час як палавінкі сімвалізуюць прынцыпы, з-за якіх узнікаюць непаразуменні ў сям'і.



*Артурас Бразюнас «Жнівень» (Літва).*

Творы атрымаліся дыялагічнымі. Глядач, які трапіў на выстаўку, не проста ўбачыў творы, а разгледзеў у іх сябе, знайшоў знаёмую сітуацыю разам з адказамі на пытанні, якія хвалююць. Акрамя таго, калі праект міжнародны, тэма раскрываецца яшчэ і з пункту гледжання ментальных характарыстых. Праўда, у размяшчэнні экспазіцыі гэты момант не падкрэслілі: творы не размеркавалі па краінах і пакаленнях, а змяшалі ў адной прасторы.

— Мы не зможам паказаць выстаўку ў далёкіх краінах, але, напрыклад, у Літве і Эстоніі прадставім, тым больш што мастакі адтуль бралі ўдзел у праекце, — расказвае Глеб Отчык. — Праект атрымаўся маштабным і цікавым, таму мы вырашылі не абмяжоўвацца толькі беларускай экспазіцыйнай прасторай.

**Вікторыя АСКЕРА**

# МАСТАЧКА, ЯКАЯ МАЛЮЕ... ЛІТАРАТУРУ



*«Від з алеі на возера», 2017 г.*

**Мы вельмі часта гаворым у дачыненні да вывучэння айчыннай літаратуры пра вартасці літаратурнага краязнаўства. Мастачка Дзіяна Каласовіч, якая нарадзілася на Салігоршчыне, а зараз жыве і працуе ў Мінску, вырашыла спалучыць літаратурнае і мастацкае краязнаўства. Што з гэтага атрымаецца — пакажа час.**

Жывапісным палотнішчам, малюнкам, якія выяўляюць перад намі літаратурныя адрасы Міншчыны, звязаныя з лёсамі тых ці іншых пісьменнікаў, ацэнку дадуць гледачы, мастацтвазнаўцы і проста аматары выяўленчага мастацтва. А зараз Дзіяна Каласовіч падрабязна занатоўвае, замалёўвае ўбачанае і адкрытае менавіта ёю, спрабуе за кошт свайго ўласнага светапогляду, уласнага мастацкага зроку разабрацца, чаму менавіта ў пэўным месцы нарадзіліся тыя ці іншыя паэтычныя, празаічныя творы.

Вось, напрыклад, у Дукоры пад Мінскам творца шукае сляды драматурга Васіля Гарбацэвіча, яўрэйскіх пісьменнікаў братоў Чарных, народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы, які наведваўся сюды за сюжэтам п'есы «Партызаны», літаратуразнаўца Янкі Казекі, які працаваў тут настаўнікам, краязнаўца Васіля Свістуна…

— Для мяне гэта даволі цікавы творчы досвед, — прызнаецца Дзіяна Каласовіч. — Я раней не працавала так адрасна, каб спалучыць, паяднаць краявід з адрасам і мастацкай і дакументальнай ідэямі. Але гэта захапляе, вымушае па-новаму ўзірацца ў прастору. Далягляды, як мне падаецца, вымалёўваюцца зусім іншыя. Ды і адкрываю надзіва шмат новага. Перад кожнай такой паездкай даводзіцца зазіраць у спецыяльную літаратуру, раіцца з дасведчанымі знаўцамі роднай старонкі. Шукаць, адным словам, крупінкі краязнаўчай памяці…

Следам за пухавіцкай Дукорай, іншымі блізкімі да Мінска ваколіцамі адрасамі літаратурна-краязнаўчых пленэраў у Дзіяны Каласовіч будуць Любаншчына, Салігоршчына. Як на першы погляд, то і не самыя багатыя на літаратурна-краязнаўчую памяць адрасы. Але Дзіяна лічыць інакш:

— У Любані жыве адзін з самых старэйшых дзіцячых пісьменнікаў Беларусі Іван Муравейка. Ён яшчэ Вялікую Айчынную вайну прайшоў. Мае баявыя ўзнагароды. На Рэйхстагу ў Берліне аўтограф свой пакінуў… У вершах Івана Муравейкі, які нарадзіўся ў самай буйнай вёсцы Любаншчыны — Талі, уміяшчаецца вельмі шмат мясцовага матэрыялу. Шматлікія мікратапонімы, родныя, блізкія краявіды натхнілі таленавітага творцу на самыя розныя вершы, песні. — Усё гэта зачароўвае, захапляе. А яшчэ пра раку Арэсу, востраў Зыслаў, мястэчка Урэчча, іншыя мясціны Любаншчыны пісалі Уладзімір Паўлаў, Ніна Маеўская, Сяргей Грахоўскі, Яўген Хвалей, Казімір Камейша… Спадзяюся, што мне ўдасца зазірнуць у іх вобразную сістэму, у іх каардынаты творчага мыслення, удасца нешта сваё ўласнае, асабістае дадаць у мастацкае прачытанне нашай роднай старонкі.

Саюз мастака і пісьменніка можа, аказваецца, мець і такі характар, як і ў выпадку з задумамі жывапісца Дзіяны Каласовіч. Спадзяёмся, што яе працы, скіраваныя на каментарый літаратурнай памяці Міншчыны, знойдуць сваіх гледачоў не толькі на адмысловых выстаўках, але і ў альбомах, у іншага фармату рэпрадукцыях. А мо будуць выдадзены і мастацкімі паштоўкамі з лаканічнымі пісьменніцкімі тэкстамі?..

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# «ЛЯЛЬКА» Ў РУКАХ ЧАЛАВЕКА

## Пачуццё прыгожага ад Віктара Клімчука

**На беразе ракі Віцьбы ўзвышаецца будынак Беларускага тэатра «Лялька», аднаго з лепшых лялечных тэатраў нашай краіны. Ля ўвахода маленькага і дарослага гледача сустракаюць прыгожыя кампазіцыі з лялек да спектакляў з рэпертуару, безліч дыпломаў на шляху да гардэроба распавядаюць гісторыю творчасці калектыву. Асаблівую цікавасць уяўляе вышываная карта свету, на якой адзначаны месцы, дзе тэатр паказваў свае пастаноўкі. У цэнтры — яркае сэрца — Беларусь, вакол — Масква, Даўгаўпілс, Гданьск, Кішынёў, Анкара, Тэгеран, Парыж, Франкфурт, Заграб, Каір... Пра жыццё, падарожжы і дасягненні Беларускага тэатра «Лялька» распавёў мастацкі кіраўнік і заснавальнік тэатра заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Віктар Клімчук.**



Віктар Клімчук.

**— Рэпертуар «Лялькі» складаецца з дзіцячых і дарослых, звычайных і інтэрактыўных спектакляў. Як размяркоўваецца паміж імі цікавасць гледача?**

— Вядома, людзі любяць вясёлыя спектаклі. Але я кажу: «Каб было вельмі весела, трэба ісці на стадыён». Тэатр «Лялька» заняў у Віцебску асобную нішу, займеў сваю аўдыторыю, таму мы спрабуем не проста ўсім дагадзіць, але і арыентавацца на разнастайнасць густаў. Ставім і вясёлыя, і філасофскія спектаклі. Падабаецца смяяцца — ідзіце на камедыі кшталту «Дэкамерона». Хочаце паразважаць — ёсць Чэхаў і Гогаль. Цягне да казак і прыпавесцей — наведайце цудоўную пастаноўку паводле аповесці Уладзіміра Караткевіча «Ладдзя роспачы». Кажуць, тэатр павінен выхоўваць гледача. Мы і выхоўваем. Праз такія спектаклі, як «Умка», «Горад клоўна Піка», «Хлопчык-Зорка», «Чорная курыца, або Падземныя жыхары», дзеці адначасова забаўляюцца і нечаму вучацца. Дваццацігадовыя юнакі, якія выраслі на нашых спектаклях, часам прыходзяць і кажуць: «Божачкі, які спектакль! А ў школе нават не зразумелі, што ён такі добры».

Але мне ўсё ж здаецца, што ў першую чаргу тэатр павінен не вучыць, а выхоўваць адчуванне прыгожага. Тэатр — гэта і літаратура, і музыка, і харэаграфія. Калі ўсё якасна зроблена, чалавек прызвычайваецца да добрага мастацтва. «Лялька» — вельмі ўтульны тэатр, і глядач, які трапляе ў нашу атмасферу, пацяху ўсведамляе прыгажосць.

**— Адметнасць «Лялькі» — яе беларускамоўнасць, бо ўсе спектаклі ідуць выключна на роднай мове. Ёсць сярод гледачоў тыя, каму цяжка зразумець пастаноўкі?**

— Аднойчы жанчына паглядзела «Ладдзю роспачы» і пасля спектакля сказала: «Усё зразумела, толькі патлумачце, што такое "сумленне"?». Тую ж «Ладдзю» калісьці паказвалі і амерыканцам. Слоў яны не ведалі, але адчулі, што спектакль годны. Увогуле, чым больш моў ведае чалавек, тым лепш для яго. Крыху крыўдна за беларускую: такая ж славянская мова, як руская і ўкраінская, ці можна яе не разумець? Сам я да 9 класа хадзіў у беларускую школу, а пасля пераехаў і дваццаць пяць гадоў жыў у Расіі. Вярнуўся на Радзіму, наведваў спектаклі і адразу пачаў гаварыць па-беларуску, а беларусы, якія ўсё жыццё тут пражылі, адказваюць мне па-руску. А засвоіць родную мову зусім не цяжка. Напрыклад, шаснаццаць гадоў езджу на фестывалі ў Сербію і там размаўляю па-сербску, хаця ніколі па-сапраўднаму гэтаму не вучыўся. Калі стаўлю спектакль у Польшчы, праз тры дні пачынаю адказваць па-польску. Вядома, усё хутка забываецца, але пры жаданні навыкі лёгка аднавіць: славянскія мовы падобныя адна да адной.

**— Акрамя лялечных спектакляў, ваш тэатр мае батлейку. Яна карыстаецца попытам?**

— Батлейку для «Лялькі» разам са сваёй жонкай Ганнай зрабіў наш выдатны мастак Алесь Сідараў. У асноўным мы звяртаемся да яе на Каляды. Батлейкай цікавяцца ва ўніверсітэтах і інстытутах, пакідаюць заяўкі нават замежнікі, якія прыязджаюць у Віцебск на экскурсіі. Аднойчы нас запрасілі ўзяць удзел ва ўкраінскім фестывалі батлеечных тэатраў са спектаклем «Загубленая душа, або Пакаранне грэшніка», пастаўленым па матывах кнігі Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». Расповед у пастаноўцы ідзе пра чалавека, які прадаў душу д'яблу, — амаль што беларускі варыянт «Фаўста» Гётэ. На фестывалі ўсе паказвалі Нараджэнне Хрыстова, а мы паспрабавалі расказаць пра тое, што будзе далей, калі раптам чалавек страціць душу. Спектакль меў добры ўплыў на гледача. Увогуле, лялечныя тэатры ў Беларусі знаходзяцца на вельмі высокім прафесійным узроўні, прапануюць наватарства, рухаюцца наперад, бачаць, куды крочыць сусветны тэатр. «Лялька» даўно бярэ ўдзел у фестывалях, у 90-я гады мы аб'ехалі ўсю Германію. На жаль, зараз менш грошай і магчымасцей вандраваць.



Фота Віктара Нікалаевай.

Сцэна са спектакля «Вясёлы Дарафей».

**— Якія фестывалі для лялечных тэатраў існуюць у Беларусі?**

— Раз на два гады ў Мінску ладзіцца Міжнародны фестываль тэатраў лялек, вылучаюцца лялечныя спектаклі і на Нацыянальную тэатральную прэмію. Але я не лічу, што прэмія правільна падыходзіць да справы: каб прайсці адбор, трэба даслаць дыск з пастаноўкай на прагляд камісіі. А спектакль трэба глядзець «жыўцом» — гэта мастацтва, не разлічанае на запіс, на дыску атрымліваецца зусім іншы твор. Раней мы жылі без Нацыянальнай тэатральнай прэміі і ўсё роўна ведалі, які тэатр добры, а які дрэнны. Каб паспяхова існаваць, прэмія павінна крыху змяніць фармат.

**— Беларусь — невялікая краіна, але жыхары розных гарадоў не ведаюць, што адбываецца ў іншых абласных тэатрах…**

— Раней з гэтым было прасцей. Напрыклад, у часы СССР Віцебскі драматычны тэатр імя Якуба Коласа ехаў у Гомель і месяц паказваў там свой рэпертуар, а да нас прыязджаў тэатр з Гомеля ці Брэста. Глядач знаёміўся з іншай трупай, бачыў яе магчымасці, параўноўваў. Зараз такі абмен у нейкім сэнсе спрабуе замяніць Нацыянальная тэатральная прэмія, але ж яна праходзіць у Мінску, дзе спектаклі ацэньвае мінскі глядач. У рэгіёнах аматары тэатра ведаюць толькі пра тое, хто сёлета атрымаў узнагароду. Да таго ж адна справа паказваць спектакль у родным будынку, зусім іншая — прыехаць у мінскі тэатр, не падобны да твайго, дзе чужыя сцэна, святло і гук.

**— З якімі праблемамі зараз сутыкаецца беларускі лялечны тэатр?**

— Праблем, як і ўсюды, шмат, але якія з іх вырашальныя? Турбуе заробак акцёраў: не можа прафесія быць прэстыжнай, калі ў ёй мала плаціць. Цяжка наважыцца ісці ў гэтую сферу, калі загадзя ведаеш, што атрымаеш мала грошай, складана будзе забяспечыць сям'ю. Акцёр павінен шмат працаваць над сваёй прафесіяй, а ў нашых артыстаў няма часу: яны недзе падрабляюць, здымаюцца ў фільмах, рэкламе. Небяспека і ў надзвычайнай папулярнасці гаджэтаў. Калі да нас прыходзяць школьнікі, хочацца забраць у іх смартфоны на час спектакля. Гэта ўжо навязлівая ідэя, новы інстынкт: кожныя пяць хвілін яны павінны яго ўключыць, зірнуць на экран. Калі вы ў апошні раз бачылі, каб дзеці на вуліцы проста гулялі ў футбол? Трэба думаць, як адарваць чалавека ад камп'ютара, інакш страчваецца адчуванне соцыуму. Дзіцё заканчвае школу і не ведае, як далей сябе паводзіць у грамадстве, нармальна камунікаваць. У некаторых краінах ужо выдаткоўваюць значныя сродкі на тое, каб дзеці хадзілі ў музеі, кіно, тэатры, глядзелі канцэрты.

Але ўсё не так дрэнна: я лічу, што з цягам часу нешта выправіцца самастойна, сама прырода не дасць чалавеку вярнуцца на крок назад. Усё будзе добра, калі тэатр і кніга стануць надзённай патрэбай. Тэатр робіць чалавека іншым, вымушае задумацца над тым, хто ён ёсць і навошта прыйшоў у наш свет. Зараз крыху не так, але спадзяюся, што хутка людзі гэта зразумеюць. Калі кожная асоба — мікрасусвет, то як інакш нам адчуць аб'яднанне, прыналежнасць да адной краіны? Мы жывём на цудоўнай зямлі азёр, рэк, палёў, лясоў. Беларусь можна любіць і любіць, толькі трэба крыху папрацаваць над заганамі. Дваццаць пяць гадоў я жыў без Беларусі і вельмі сумаваў. Сёлета ўжо трыццаць трэці год працую ў Віцебску, і рады, што вярнуўся на Радзіму.

**— Калектыў «Лялькі» часта выязджаў на гастролі, браў удзел у конкурсах і фестывалях. Як беларускі тэатр успрымаюць за мяжой?**

— Ведаеце, калі выпраўляемся ў Сербію, нам заўсёды задаюць такое пытанне: «Скажыце, чаму напрыканцы XX — пачатку XXI стагоддзя беларускі лялечны тэатр лічыцца адным з лепшых у свеце?». Гэта іх меркаванне. Наш тэатр мае ўплыў, штосьці еўрапейцы бачаць у ім. Магу дакладна сказаць, што ў беларускага лялечнага тэатра добрая эстэтыка, дасведчаныя, выхаваныя акцёры, якасная рэжысура. Мы можам даць фору многім іншым краінам, бо ў нас выдатна працуюць рэжысёры, таленавітыя людзі ставяць таленавітыя спектаклі, якія не сорамна паказваць за мяжой. Хутка ідзе развіццё: напрыклад, у Расіі вельмі любяць марыянетку, а ў нас мода на марыянетку ўжо прайшла, даўно знікла паняцце «шырма». Марыянеткі, канечне, заўсёды будуць, але ў іншай якасці. Беларускі лялечны тэатр — гэта якасны прадукт, які мае будучыню і можа ўплываць на развіццё тэатральнага мастацтва ў іншых краінах.



У фае тэатра.

Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ

# «ЮЛЯ, ГЭТА Ж ОРША!»

## Малады рэжысёр пра горад як стан чалавечай душы

**За некалькі месяцаў дакументальная стужка Юліі Ралко «Орша... Мінск... Орша» знайшла некалькі пляцовак для кінапаказаў, некалькі дзясяткаў удзячных гледачоў і запрашальных білетаў на фестывалі. Дэбютны фільм стаў глыбокім роздумам пра «іншую» Беларусь, пра людзей, якія засталіся ў глыбінцы і не збіраюцца яе пакідаць. Кіно атрымалася вельмі суровым, а адборшчыкаў фестываляў і гледачоў здзівіў той факт, што здымала яго зусім маладая дзяўчына, якая ідэю «Оршы...» выношвала амаль пяць гадоў, а рэалізавала за некалькі месяцаў.**

**— Юля, як ты прыйшла да высновы, што будзеш здымаць такое кіно?**

— Нічога незвычайнага, проста пазнаёмілася з гэтымі людзьмі яшчэ на першым курсе, але не ведала, як падысці да іх, таму са здымкамі давялося пачакаць. Праўда, яны мяне шакавалі сваёй манерай весці дыялог, сваім стаўленнем адзін да аднаго, падаліся вельмі жорсткімі, суровымі. У іх і да дзяўчат стаўленне як да хлопцаў: вельмі свойскае, не варта чакаць ад іх добрых манер. І гэта быў не адзін чалавек, а ўся кампанія — я трапіла ў «закрытую» тусоўку, прычым мяне туды быццам штурхнулі і зачынілі за мной дзверы. І самае цікавае, што гэтыя хлопцы нават не адмаўляюць усяго вышэйназванага, не збіраюцца апраўдвацца, толькі наадварот: «Юля, дык гэта ж Орша!». Для мяне слова «Орша» ўжо стала намінальным, а напачатку было чымсьці новым і вельмі спецыфічным. У мяне засталося шмат інтэрв'ю з героямі, і калі іх паслухаць, то можна зразумець, што ўвесь горад такі, і тое, што мы называем «ліхімі 90-мі», — якраз пра Оршу, на ёй застаўся такі след. Быў момант, калі іх матэрыял быў адсняты, але я білася ў істэрыцы і думала, што «кіна не будзе», што тут няма кадраў, з якіх мог бы атрымацца фільм, але я ўзяла сябе ў рукі і скончыла працу.

**— Ты адзначала, што ў цябе быў сцэнарый, але было складана яго прытрымлівацца…**

— Так, але сцэнарый у дакументальным кіно — гэта больш адчуванні, настрой, атмасфера фільма, твае здагадкі і мэсэдж. Астатняга быць не можа, бо ніколі не ведаеш, што і як пойдзе. Я кожны раз туды ехала і кожны раз не магла ўявіць, што мяне чакае. Спачатку я ездзіла проста паглядзець ды «пазнаёміцца» з героямі, каб яны прывыклі да таго, што ў мяне ёсць камера, задалі ўсе пытанні, а мне трэба было прыглядзецца да фону і ландшафтаў. Нават гэтыя пустыя 3 — 4 паездкі даліся вельмі цяжка, бо гэты горад, шчыра кажучы, мяне моцна прыгнятае. Але я сапраўды хацела скончыць фільм, выдаткавала на яго шмат сваіх нерваў і слёз. Калі здымаеш сваё кіно, яно нікому, акрамя цябе, не патрэбнае, пакуль нічога не атрымалася. Не магу сказаць, што я цалкам задаволеная вынікам — амаль заўжды атрымліваецца каля 50% задумы, але калі глядзець цвяроза, то атрымалася вельмі натуральна, без пастаноўкі. Я не магла кіраваць тым, што адбывалася, мае героі былі непадпарадкавальнымі. Максімум, які я магла патрабаваць ад сваіх персанажаў, гэта прыйсці ў нейкую лакацыю.

У плане стылістыкі фільм атрымаўся такім, як я хацела: і ўражанне, і асадак, і думкі пасля прагляду застаюцца патрэбныя. Магчыма, я б зрабіла стужку яшчэ больш жорсткай, дадала б нейкую бойку ці сюжэтную лінію з аршанскай турмой, але не атрымалася.

**— Табе досыць часта задаюць пытанне наконт рэжысёрскай этыкі, бо часам вельмі жорстка ставішся да сваіх герояў. Што такое рэжысёрская этыка ўласна для цябе?**

— Я ўжо маю адказ: зраблю я кіно пра канкрэтнага чалавека ці не зраблю, асабіста для яго нічога не зменіцца — ён такі, які ёсць, і на камеры, і ў жыцці. Асабіста для мяне няма мяжы этычнага і неэтычнага ў кіно, мае героі ведалі, што я іх здымаю, больш за тое, яны самі на гэта пагадзіліся. Былі моманты, калі прасілі адключыць камеру, пагражалі разбіць аб'ектыў, але тым не менш яны ўсвядомлена здымаліся, хоць часам і забываліся на гэта. Напрыклад, калі лаяліся, наогул не звярталі на мяне ўвагі. Хацелася выключыць камеру, бо было страшна, што яе паб'юць, але я ўспамінала свайго выкладчыка Сяргея Кацьера, які кажа, што, «калі ты выключаеш камеру, пачынаецца самае цікавае». Калі здымаю, у мяне адключаецца не камера, а інстынкт самазахавання, я зліваюся са сцэнай і вельмі моцна паглыбляюся ў працэс.

**— Кажуць, што мажорнае кіно здымаецца на заказ, а мінорнае — для сябе.**

— Мяркую, гэта залежыць ад характару рэжысёра. Я вялікі песіміст у душы, гэта паўплывала і на стужку. За вясёласцю хаваецца шмат трагізму, тое ж самае я паказала ў фільме, ён стаў адлюстраваннем майго стану душы. Здаецца, што сюжэт смешны, але калі задумацца, то мы смяёмся са сваіх праблем і свайго гора. З іншага боку, калі не смяяцца, то што застаецца? Я чула, што здымаць вясёлае кіно больш складана, чым сумнае, бо цяжка падняць настрой гледачу, а вось сапсаваць — вельмі лёгка. Але ў мяне не было такой задачы, я не хацела псаваць настрой. Я наогул прытрымліваюся такой думкі, што кіно не павінна неяк уплываць, вучыць ці даваць адказы на пытанні. Наадварот — мастак, рэжысёр задае пытанні гледачам, а яны ўжо павінны шукаць адказы кожны свой. У маёй стужцы адкрыты фінал, кожны зразумее яго так, як захоча. Думаю, калі я буду здымаць нешта вартае ўвагі аўдыторыі, гэта дакладна не будзе вясёлае і жыццесцвярджальнае кіно.

**— Як адрэагавалі на стужку твае героі? Яны бачылі фільм?**

— Так, і я вельмі перажывала наконт іх рэакцыі, бо яны былі занадта натуральнымі ў фільме, але што я магла зрабіць? Прасіць іх не выкарыстоўваць нецэнзурную лексіку? Мая галава была занята тым, як сплесці маленькія гісторыі ў адну, як змяніць лакацыю. Мне пра гэтае кіно казалі, што там шмат неэтычнага, але калі гэта апраўдана, калі само жыццё дыктуе табе ракурсы, то куды дзецца? Я была першым чалавекам, які хацеў усё «запікаць», заглушыць, але пачула думку, што ў гэтым фільме мова — асаблівы герой. Больш за ўсё крытыкі было ад дарослых, кшталту, навошта гэта паказваць? Але я адказвала, што нельга не паказваць такое і праходзіць міма, калі ўсё гэта вакол нас. Мае героі бачылі кіно без мяне, і я ведаю толькі тое, што ім спадабалася. Напэўна, яны прымаюць сябе такімі, якія ёсць.



*Кадр з фільма «Орша…Мінск…Орша…» (рэж. Ю. Ралко).*

**— Мне праблемы, узнятыя ў фільме, падаліся глабальнымі, а не толькі аршанскімі.**

— Так і ёсць, я не магу сказаць, што я моцна раскрыла лірычны бок душэўных перажыванняў майго галоўнага героя, ён наогул у цені, як праваднік у гэтае аршанскае наваколле. А праблемы і сапраўды ўзняты глабальныя, мяне хвалявала такая думка: галоўны герой вырас у той жа атмасферы, у тым жа горадзе, што і астатнія, але ён бачыць, што ў Оршы штосьці не тое, штосьці чужое. А чаму не з усімі так адбываецца? Вось гэта мяне вельмі цікавіла — чалавек, яго залежнасць і адносіны з горадам. Я не змагла тут адысці і ад тэмы, якая хвалявала мяне яшчэ з першага курса Акадэміі мастацтваў, тэмы вечнага вяртання, кругавароту падзей. Сюжэт «Оршы...» для мяне таксама кручэнне, зацыкленасць людзей. Страшна становіцца ад таго, што людзі «зарываюцца» на бытавых момантах і адмаўляюцца ад чагосьці глабальнага на карысць выгод, тым самым губляючы сваю ўнікальнасць. З гэтага кола вельмі складана выйсці, нават калі ты малады і ў цябе ёсць жаданні — гэты момант мяне вельмі хвалюе, бо многія людзі губляюцца ў такім існаванні.

**— Фільм атрымаўся сапраўды аўтарскім, нешаблонным. Ці лёгка ствараецца такое кіно?**

— Калі не звяртаць увагі на шаблоны, вельмі проста зрабіць аўтарскае кіно. Я не была прывязана ні да якога фармату, здымала як адчувала. Але любое кіно рабіць складана, незалежна ад таго, аўтарскае яно ці не. Дакументальнае кіно павінна быць аўтарскім, якім жа яшчэ? Ты можаш выказаць у фільме свой пункт гледжання і свой погляд, і для мяне ідэя дыктуе форму. Жыццё нашмат больш цікавае, складанае і непрадказальнае, чым нашыя чаканні і фантазія, таму часта кіно можа атрымацца, проста калі ты ўважліва ўглядзешся, а не будзеш сам «кіраваць» працэсам. Мяркую, у гэтым і розніца паміж дакументальным і ігравым кіно — у неігравым кіно ты павінен заўважыць тое, што можа быць іскрынкай, фіналам, трэба быць цікаўным чалавекам, а не арганізатарам, які крычыць: «Стоп! Не тое!» Ты не можаш сказаць жыццю: «Не тое!»

**— Навучанне ў Акадэміі мастацтваў паўплывала на цябе як рэжысёра?**

— Усе вельмі любяць лаяць акадэмію, а я не буду гэтага рабіць. Вядома, з тэхнічнага пункту гледжання тут хапае праблем, магчымасцей для студэнтаў, асабліва завочнікаў, амаль няма. Але калі чалавек хоча, ён пры любых умовах і магчымасцях будзе штосьці рабіць, я ў гэтым упэўнілася на ўласным досведзе. У маім выпадку ўсё залежала ад майстра курса, з якім я праводзіла большую частку навучання, і менавіта ён расказаў мне, што ёсць фестывалі, ёсць дакументалістыка, ёсць безбюджэтнае кіно. І я зрабіла выснову, што калі я прыдумала ідэю фільма і пасля завяршэння навучання яе ўсё ж рэалізавала, то магу сказаць, што акадэмія мне штосьці дала.

**— Ты адзначала, што не ведаеш школ дакументалістыкі і не арыентуешся на іншых рэжысёраў. Чаму?**

— Больш за ўсё ў жыцці я не хачу, каб маё кіно было падобным на чыёсьці, і так, у мяне няма арыенціраў ці куміраў, хоць, магчыма, з імі мне было б лягчэй зняць свой фільм. На маю думку, у дакументалістыцы ўсё залежыць ад выпадку, а не ад адукацыі: калі будзе добры сюжэт, рэжысёр яго ніколі не праміне.

**— Бачыш сябе ў ігравым кіно?**

— Я вельмі катэгарычны чалавек, калі бачу на экране недакладнасць, адразу перастаю верыць, калі штосьці выглядае ненатуральна, калі ёсць ляпы. У ігравым кіно такога зашмат, але, безумоўна, я хачу паспрабаваць зняць такое кіно і абяцаю зрабіць яго максімальна натуральным. Пакуль што я да такіх фільмаў не дарасла, ствараць іх без грошай не збіраюся, бо з тым рэквізітам і камерай, якія ў мяне зараз ёсць, — гэта моцная абраза гледача. Але адзінае, што дакладна ведаю, — ідэю буду «выношваць» гэтак жа доўга, як і «Оршу...»

**— Твае любімыя фільмы, якія яны?**

— Ведаеш, у мяне няма любімага рэжысёра, але ёсць любімае кіно, якое нешта змяніла ў душы. Для мяне наогул любімыя фільмы падзяляюцца на катэгорыі: кіно як індустрыя і як погляд на жыццё. Напрыклад, мультфільмы ад *Pixar* і «Уладар пярсцёнкаў» зроблены неймаверна — і рэжысура, і выява выдатныя. А як мастацтва мне падабаюцца некаторыя стужкі Феліні, бо ад іх хочацца плакаць, калі гляджу, мне нават падаецца, што гэта і мой погляд на рэчы таксама.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Скрыпач на даху… Віяланчэліст і піяніст

## Трыа «Новая філармонія» ў гарадской прасторы

**Ніякіх смокінгаў і ўрачыстых бабачак! Музыканты выйшлі ў звычайных кашулях і джынсах, як маглі б хадзіць па вуліцы, і сталі іграць літаральна сярод мінскіх дахаў. Шагалаўскае ўяўленне (прадчуванне, што так можа быць?) увасобілася літаральна. Адкрытая пляцоўка, што сёлета задае тон вечаровых сталічных імпрэз, прапанавала канцэрт выдатных беларускіх музыкантаў з трыа «Новая філармонія»: скрыпач Арцём Шышкоў, віяланчэліст Дзіма Цыпкін і піяніст Сяргей Смірноў на пачатку жніўня зноў парадавалі сваіх прыхільнікаў на радзіме канцэртам. Гэтым разам ён складаўся цалкам з музыкі сучаснага англійскага кампазітара Макса Рыхтэра. Ці шмат хто ведае гэтае імя?..**

Матывы Антоніа Вівальдзі ў інтэрпрэтацыі сучаснага кампазітара спалучыліся з аўрай вуліцы Рэвалюцыйнай — забудова XIX стагоддзя. Макс Рыхтэр, які нарадзіўся ў XX стагоддзі, злучыў часы, краіны, месцы: музыка XXI стагоддзя не «цураецца» людзей, яна паказвае іх адчуванні і драмы і гатова да пераадолення непаразуменняў. Як гатовы і сучасныя музыканты прадстаўляць яе ў любых умовах. Таму і «Новая філармонія» — няма прывязкі да канкрэтнага месца, сцэны, залы са стацыянарнымі крэсламі. Музыка можа быць усюды.

Жыццё горада стала фонам, які падкрэсліў чуллівасць і крохкасць гукаў: весялосць рэстаранчыкаў, што знаходзяцца побач, галасы людзей, нават нечаканы грукат запаўняў паўзы, ствараючы кантраст. Яны працягвалі іграць — і адлегласць ад зямлі станавілася яшчэ больш адчувальнай. Дзеля гэтага і ішлі слухаць канцэрт у прасторы *VondelRoof*: поўная «зала» (адпаведная камернаму канцэрту), ды ў «мёртвы сезон», калі вялікая філармонія адпачывае.

Тое, што яшчэ падаецца новым і эксперыментальным для айчыннай публікі (адкрытая пляцоўка ў незвычайным атачэнні ружовых дахаў), ніколькі не бянтэжыла выканаўцаў. Усе ўдзельнікі трыа — вядомыя музыканты і зоркі не толькі для Беларусі, якая застаецца для іх радзімай. Яны лаўрэаты прэстыжных міжнародных конкурсаў, удасканальвалі майстэрства ў вядомых еўрапейскіх музычных навучальных установах, жывуць і выступаюць у Еўропе, шмат гастралююць па свеце. Загартоўка канцэртным жыццём магутная ў кожнага паасобку і ва ўсіх разам. Менавіта разам удзельнікі трыа летась былі адзначаны ў Бельгіі нацыянальнай музычнай прэміяй *Golden Label*, заснаванай часопісам *Classic Central* у галіне класічнай музыкі і мастацтва. Разам музыканты *Nouvelle Philharmonie piano trio* запісалі ў Парыжы і альбом з твораў Пятра Чайкоўскага і Паўла Карманава. Да Чайкоўскага, дарэчы, звярнуліся і падчас канцэрта цыкла «Класіка ля Ратушы», дзе ў адзін вечар гучала музыка «Пораў года» трох кампазітараў: Вівальдзі выканалі музыканты з Італіі, а наша трыа іграла яшчэ Астара П'яцолу. І калі для некага гэтыя імёны — Арцём Шышкоў, Дзіма Цыпкін, Сяргей Смірноў — магчыма, толькі сталі адкрыццём дзякуючы канцэрту ля Ратушы, то цяпер варта сачыць за іх канцэртамі: музыканты заўсёды прадумваюць, з чым пазнаёміць айчынную публіку, каго з кампазітараў яна яшчэ можа не ведаць, ці прадстаўляюць сваю інтэрпрэтацыю твораў. Ну і дыск — дасць Бог, не апошні.

**Марыя АСІПЕНКА**



Фота Максіма Шуміліна, www.kultprosvet.by.

Трыа «Новая філармонія».

*Фэст*

# МІФЫ, ЦМОК І БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ

**Фестываляў не бывае шмат, асабліва, калі праводзяць іх не ў сталіцы, а ў маленькіх гарадах. Напрыклад, паехаць «У госці да Лепельскага Цмока» — вартая нагода, каб не толькі паслухаць музыку, але і даведацца аб беларускай міфалогіі.**



Гурт «Лепшы квас».

Арганізатары праекта адзначылі, што мэта фестывалю — не толькі забаўляць і адукоўваць, але і разбурыць міф, што сімваламі Беларусі могуць быць толькі зубры ды буслы. Таму што цмок — самая беларуская з усіх міфічных істот — прысутнічае ў народнай творчасці ўжо шмат стагоддзяў. Да таго ж лепельскі цмок добры, а не злы, як звычайна думаюць. Чаму ж помнік яму ўсталявалі менавіта ў Лепелі? Лепельскі цмок вядомы з легендаў і міфаў, ён самы папулярны сярод беларускіх цмокаў. Яшчэ больш у гэта сталі верыць пасля выхаду рамана Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», дзе пісьменнік дэталёва апісаў цмока. Гэтым апісаннем скарыстаўся скульптар Леў Аганаў і стварыў помнік цмоку з Лепеля. Яго ўсталявалі 9 лістапада 2013 года, а ў райвыканкаме вырашылі штогод праводзіць фестываль беларускай міфалогіі ў атмасфернай мясціне каля возера ў лепельскім гарадскім парку.

Уваход на лепельскі фестываль будзе вольным, трапіць на яго лёгка нават з Мінска, адкуль арганізаваны бас-тур. Чаму варта завітаць «У госці да Лепельскага Цмока» 20 жніўня? Па-першае, каб убачыць шмат маладых і таленавітых беларусаў, асабліва маладзёжны этна-праект «Патрыцыя-Гарэза», паслухаць фальклорныя гурты «Малала» і полацкі «Варган», патанцаваць у танцавальнай лагчыне, дзе будуць арганізаваны майстар-класы па музыцы, спевах, танцах. Беларускую сучасную музыку можна паслухаць у выкананні гуртоў «Лепшы квас», «Тутэйшыя», дуэта «Агата» (гэта новая музыка са спалучэннем беларускага фальклору, еўрапейскага этнаджаза і лацінаамерыканскага танга), *Harmonic Style Project*. Словы беларускіх паэтаў прагучаць у спевах Зміцера Вайцюшкевіча. Запрасілі арганізатары фольк-рок гурт «Рокаш» і легендарны «Палац» з Алегам Хаменкам, гасцей з Украіны *TaRuta* і «Спеўны ход» з Сержуком Доўгушавым.

Падчас фестывалю будуць дзейнічаць інтэрактыўныя зоны: на дзіцячым пагорку вас чакаюць казкі, гульні, спектаклі ад казачніцы Ларысы Рыжковай і гурта «Калыханка», на кулінарным востраве прэзентуюць кнігу «Кулінарная спадчына Лепельшчыны», у даліне майстроў можна набыць сувеніры і цікавыя рэчы ад рамеснікаў, а пасля паглядзець (ці нават паўдзельнічаць) у шоу паветраных змеяў.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

## ДАБРАЧЫННАЕ

У межах праекта «Пешаходка» гурт *Re1ikt* выступіць з вялікім бясплатным дабрачынным канцэртам у Каретным дворыку 12 жніўня. Музыканты імкнуліся арганізаваць не звычайны канцэрт, а выступіць з высакароднай мэтай — сабраць грошы для клубнага дома «Адкрытая душа», які праводзіць сацыяльна-псіхалагічную рэабілітацыю і падтрымлівае тых, хто пакутуе на псіхічныя захворванні.

Гэта не першы дабрачынны канцэрт гурта, які неаднаразова браў удзел у падобных праектах: раней музыканты выступалі ў дзіцячым доме ў вёсцы Вялікія Лётцы, збіралі сродкі для Беларускага дзіцячага хоспіса і Жодзінскага дзіцячага дома. *Re1ikt* ірае ў кірунку *world rock*, спалучае пры гэтым традыцыйны беларускі фальклор з актуальнымі рок-кірункамі. Таксама гурт вядомы крэатыўным выкарыстаннем гітарных эфектаў, народных духавых і перкусійных інструментаў. У кампазіцыях музыкантаў сплятаюцца палескі шаманізм, аўтэнтычны драйв і таямнічы беларускі космас. Калектыў з'яўляецца ўладальнікам шэрага музычных узнагарод у Польшчы і Беларусі, выступаў на Украіне, у Літве, Расіі.

## ВІНШАВАЛЬНАЕ

Сёлетні фестываль *A-fest*, які адбудзецца днямі ў Лошыцкім парку, абяцае быць незабыўным: па-першае, гэта фінальны бясплатны *open-air* лета, па-другое, мае мэту адзначыць 950-ы дзень нараджэння Мінска. У праграме не толькі канцэрты, але і караоке-пікнік пад адкрытым небам, на якім можна будзе праспяваць дуэтам з зоркамі фестывалю, паўдзельнічаць у караоке-батлах і прачытаць вершы беларускіх класікаў на паэтычнай сцэне.

Хэдлайнеры сёлетняга фестывалю — брытанскі спявак *John Newman*, нямецкі джаз-банд *De-Phazz*, лірычная ўкраінская артыстка Марыя Чайкоўская і беларускі гурт Akute. Самыя цікавыя забавы таксама чакаюць вас на *A-fest*: на працягу чатырох гадзін нон-стопам можна будзе паспяваць у караоке с адным з хэдлайнераў фестывалю, спець песні лепш за *NaviBand*, звярнуцца да класікі і праспяваць «Купалінку» ці панастальгіраваць аб 80-х, 90-х і 2000-х. Калі хто саромеецца спяваць, то можна прачытаць любімыя вершы беларускіх паэтаў ці… музыкантаў (ад Аляксандра Саладухі да Макса Каржа).

## КЛУБНАЕ

Клуб *RE: PUBLIC* праводзіць серыю канцэртаў у межах фестывалю вулічных музыкантаў. Як адзначаюць арганізатары, гэта фестываль лепшых музыкантаў і гуртоў, якіх яны знайшлі на вуліцах Мінска і вырашылі даць ім магчымасць паказаць сябе ў іншым фармаце, на сцэне клуба. Падтрымаць маладых і таленавітых, а таксама адчуць подых сталічных вуліц можна ўжо на гэтых выхадных.

12 жніўня выступіць гурт *Afrococoa*, гучанне якога аб'ядноўвае ў сабе блюз соўл, рэгі, традыцыйную заходнеафрыканскую музыку. Таксама музыканты натхніліся творчасцю нігерыйскага музычнага ідала *Fela Kuti*. Аматары кажуць, што музыка гэтага гурта «прабіраецца да костак і закрадваецца нават у самыя далёкія куткі душы». 18 жніўня адбудзецца канцэрт *Tempo Bay*. Гурт заснаваны ў Мінску ў пачатку 2016 года, а ўжо праз паўгода выйшла дэбютная пласцінка музыкантаў. Гаварыць пра музыку не трэба, яе варта пачуць: свежы сінтэз індзі-рока, дыска і поп-музыкі, пад якую прыемна рухацца і не менш прыемна разважаць, адчуваць і адпачываць — сэнс слухачы зразумеюць і без слоў.

# УСПАМІНЫ БЕЗ АБМЕЖАВАННЯЎ

## Праз творы, выстаўленыя ўпершыню, і кнігу ў памяць пра мастака



*Аксана Аракчэева «І толькі надпіс Вераніка», 2009 г. На партрэце журналіст радыё «Культура» Іна Наркевіч.*

**Прозвішча сям'і Аракчэевых у Мінску гучыць даволі часта. Творчую дынастыю любяць і паважаюць як прадстаўнікі айчыннай арт-прасторы, так і аматары мастацтва. Аксана Аракчэева — малодшая дачка Барыса Аракчэева, яна арганізавала серыю выставак, прысвечаную памяці любімага таты. Разам з работамі знакамітага мастака творца прэзентуе і свае мастацкія творы. Напрыканцы ліпеня ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» адкрылася новая сумесная выстаўка аўтараў пад сімвалічнай назвай «Шчасце быць разам».**

Аксана пяшчотна ставіцца да кожнага ўспаміну пра тату, яго творы аберагае, але на паліцах не хавае. Імкнецца паказаць гледачам самыя розныя кірункі і тэхнікі, у якіх працаваў Барыс Аракчэеў.

— Першапачаткова я задумвала выставачны праект на год у памяць пра тату, — расказвае Аксана Аракчэева. — Але калі стала пераглядаць работы, адшукваць розныя матэрыялы, зразумела, што праект нельга абмежаваць часавымі рамкамі. Бо мне ёсць што расказаць пра бацьку, у нашай сям'і захавалася неймаверная спадчына. Быў час, калі імя Барыса Аракчэева было забыта. Тата быў чалавекам сціплым, але ён любіў малявань, жывапіс быў яго жыццём. Я ж вельмі хачу, каб памяць пра бацьку жыла, каб яго імя гучала.

Аксана вырашыла, што калі будзе прадстаўляць творы, то так, каб не паўтарацца. Для кожнай наступнай экспазіцыі яна падбірае карціны, якія не выстаўляліся ўвогуле альбо дэманстраваліся даўно.

— Гэтым разам я вырашыла паказаць акварэльныя творы, якія не надта добра ведае глядач, некаторыя работы 60 — 70-х гадоў дэманструюцца ўпершыню, — падкрэсліла Аксана Аракчэева. — Наступны раз планую выставіць работы, якія нават сам тата нікому не паказваў. Яны беражліва захоўваюцца ў нашай майстэрні. Мае творы — таксама своеасаблівы сюрпрыз: я выстаўляю партрэты вядомых людзей, якія ўнеслі ўклад у айчынную культуру, і серыю работ «Мядзельшчына пісьменніцкая», якая таксама паказана ўпершыню.



*Барыс Аракчэеў «Казематы мужнасці», 2001 г.*

Дарэчы, яшчэ адна ідэя праекта — стварэнне кнігі, прысвечанай Барысу Аракчэеву.

— Ёсць альбом, прысвечаны творчасці бацькі, які вельмі добра напоўнены ілюстрацыйным матэрыялам, — тлумачыць Аксана Аракчэева. — Цяпер наша сям'я вырашыла падрыхтаваць новую кнігу такім чынам, каб у ёй было больш біяграфічных звестак, успамінаў сучаснікаў. Падчас падрыхтоўкі матэрыялу для кнігі я чытала ўспаміны сяброў таты і быццам бы сама кожны раз адкрывала яго наноў. Гэта дзіўна, калі роднага чалавека раскрываеш, нават калі яго больш няма. У кнігу акрамя ўспамінаў увойдуць інтэрв'ю бацькі пра вайну, пра жыццё. Да гэтай працы мы вырашылі прыцягнуць мастацтвазнаўцу, які зацікаўлены творчасцю бацькі, так да нашай каманды далучылася маладая мастацтвазнаўца Ксенія Сяліцкая, якая імкнецца дэталёва разабрацца не толькі ў творчасці бацькі, але і ў асаблівасцях таго перыяду жыцця.



*Барыс Аракчэеў «Мазаіка лета», 1973 г.*

**Вікторыя АСКЕРА**

## *Культурны ракурс*



Упершыню ў гісторыі Уздзенскага краю, адкуль крынічкі збягаюцца ў паўнаводную раку Нёман, з'явіўся прыгожы будынак пад назвай Палац культуры.

У 1930-я гады, падчас станаўлення савецкай улады, гэтая культурная ўстанова называлася Дом Тэльмана, знаходзілася ў былым памяшканні пашпартнага стала раённага аддзела міліцыі. Пасля Вялікай Айчыннай вайны раённы Дом культуры размясціўся ў будынку касцёла, узведзенага больш як дзвесце гадоў таму.

Развал Савецкага Саюза непапраўна адбіўся на яшчэ не ўзведзеным пад дах новым тыпавым будынку культурнай установы раёна: не стала крыніцы фінансавання, і недабудаваныя сцены неўзабаве давялося зруйнаваць.

Уздзенцы цярпліва чакалі новых перамен і дачакаліся. Нарэшце праект новага Палаца культуры быў зацверджаны. Фінансаванне ішло з абласнога бюджэту. Жыхары раёна хто з радасцю, хто з недаверам глядзелі на размах новай будоўлі. І атрымалася сапраўднае харащво!

Новы будынак нечакана адлюстраваў у нябёсы сонечныя прамяні празрыста-шкляным дахам над уваходам і амаль зазззяў гранямі алмаза! Чаканні і мары апошніх трох дзесяцігоддзяў здзейсніліся! У канцы кастрычніка 2014 года горад святкаваў і прымаў віншаванні з наваселлем. Многафункцыянальны аб'ект сабраў пад сваім дахам раённы Дом культуры, цэнтральную раённую бібліятэку імя П. Труса, раённую дзіцячую бібліятэку, аддзел загс. Унутранае памяшканне палаца светлае і прасторнае: шырокія ўтульныя холы, глядзельная зала, разлічаная на 400 месцаў, выставачная зала, памяшканні для заняткаў гурткоў мастацкай самадзейнасці і творчых калектываў, — усё зроблена для выдатнага адпачынку. Палац культуры размясціўся на вуліцы Навіцкага і мае прыгожы від на бульвар Дзяржынскага — любімае месца для прагулак гараджан. На вялікай пляцоўцы перад установай рэгулярна праводзяцца фэсты і гулянні раённага і абласнога маштабу. Цяпер рыхтуецца да запуску сучасны і арыгінальны фантан.

Адным словам, палац радуе жыхароў і гасцей горада. І маю ўнучку Аляксандру.

**Тамара КАЛЯДА**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

**Выходзіць з 1932 года**

**16 +**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

**Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:**
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
10.08.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1531.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2990

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686